

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 14 красавіка 1989 г. № 15 (3477) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.


У красавіку мінулага года, як і сёлета, у Мінску праходзіў тыдзень выяўленчага мастацтва. Як і сёлета, да гэтай падзеі была прымеркавана вялікая выстаўка ў Палацы мастацтваў. Яе складалі творы беларускіх манументалістаў, а прысвячалася экспазіцыя 70-годдзю Ленінскага плана манументальнай прапаганды. Прафесіяналам яна была цікавай найперш тым, што выявіла тэндэнцыі развіцця гэтага мастацтва на Беларусі, аматарам — адкрыццём новых імёнаў і магчымасцю ўбачыць у новым ракурсе творчасць вядомых майстроў.

Лёгка пазнаваліся па почырку, але ў чымсьці былі нечаканымі на той выстаўцы палотны заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Гаўрылы Вашчанкі, майстра вядомага і ў краіне, і за яе межамі. Ягоны цыкл, прысвечаны культурна-гістарычнай спадчыне Беларусі, паказаў, што мастак перажывае творчы ўздым, востра адчувае духоўныя патрэбы грамадства.

Зараз у сталіцы рэспублікі зноў свята выяўленчага мастацтва. Як і летась, у Мінску шмат гасцей з усёй краіны. У Палацы мастацтваў — Усесаюзная выстаўка дыпломных работ студэнтаў мастацкіх ВНУ выпускаў 1984—1988 гадоў. Прадстаўлены тут і Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, у якім прафесар Г. Вашчанка ўзначальвае кафедру манументальна-дэкаратыўнага мастацтва. Сярод удзельнікаў выстаўкі — ягоныя вучні. Выстаўка абмяркоўвалася на пашыраным пасяджэнні прэзідыума Акадэміі мастацтваў СССР і Навукова-метадычнага савета па эстэтычным выхаванні і мастацкай адукацыі. У рабоце пасяджэння прымаў удзел і Г. Вашчанка. Прынятыя рашэнні павінны паспрыяць удасканальванню вучэбнага працэсу ў мастацкіх ВНУ краіны, наблізіць мастацтва да рэальнага жыцця з яго праблемамі і супярэчнасцямі, адрадзіць каштоўнасці рэалізму.

Фота Ул. КРУКА

## У НУМАРЫ:

# Сустрэча ў ЦК Кампартыі Беларусі

Для ўдзелу ў рабоце расшыранага пасяджэння прэзідыума Акадэміі мастацтваў СССР і яе навукова-метадычнага савета па эстэтычнаму выхаванню і мастацкай адукацыі ў Мінск прыбыла вялікая група творчых работнікаў з Масквы, брацкіх саюзных рэспублік. Разам са сваімі беларускімі калегамі яны будуць абмяркоўваць пытанні далейшага ўдасканалення мастацкай адукацыі ў ВНУ краіны.

10 красавіка ў ЦК КПБ адбылася сустрэча прэзідэнта Акадэміі мастацтваў СССР, народнага мастака СССР Б. С. Угарава і старшыні праўлення Саюза архітэктараў СССР Ю. П. Платонава з першым сакратаром ЦК Кампартыі Беларусі Я. Я. Сакаловым. У ходзе адкрытай, зацікаўленай гутаркі Я. Я. Сакалоў расказаў гасцям аб тым, як намаганнямі рабочых, калгаснікаў, мастацкай інтэлігенцыі, усіх працоўных рэспублікі вырашаюцца задачы практычнай рэалізацыі ідэй перабудовы ў галінах народнай гаспадаркі, у сферы культуры. Удзельнікі сустрэчы гаварылі аб ролі і месцы мастака ў сучасным грамадстве, аб усямерным удасканаленні эстэтычнага выхавання насельніцтва, асабліва і дзяцей і моладзі. Вялікая ўвага была ўдзелена пытанням укаранення ў штодзённае жыццё навуковых і мастацкіх ідэй, праблеме эстэтызацыі навакольнага асяроддзя і сферы пражывання чалавека.

У абмеркаванні ўзнімаемых пытанняў удзельнічалі сакратар ЦК КПБ В. А. Пячэннікаў, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. М. Мазай, міністр культуры БССР Я. К. Вайтовіч, старшыні праўленняў саюзаў мастакоў і архітэктараў рэспублікі У. І. Стальмашонак і Я. М. Кавалеўскі.

**БЕЛТА.**

# МАСТАЦКАЯ ШКОЛА: ПОГЛЯД У ЗАЎТРА

З праблем вышэйшай мастацкай школы пачаў вострае, палемічнае выступленне прэзідэнт Акадэміі мастацтваў СССР, народны мастак СССР, прафесар Барыс Угараў на выязным пасяджэнні прэзідыума і навукова-метадычнага савета Акадэміі па эстэтычным выхаванні і мастацкай адукацыі, якое адкрылася 11 красавіка ў Мінску.

Ажыўленыя дыскусіі выклікалі праблемы развіцця нацыянальных школ выяўленчага мастацтва, пераемнасці і няспыннасці ў навучанні мастакоў ад дзіцячых студый да ВНУ, пытанні падрыхтоўкі мастакоў-педагогаў. Удзельнікі пасяджэння падтрымалі прапановы паскорыць адкрыццё аспірантур у ВНУ Акадэміі мастацтваў СССР, перагледзець палажэнні аб узроставым цэнзе для выкладчыкаў творчых ВНУ, прысваення ім вучоных званняў у залежнасці ад таго, ці маюць яны ганаровыя званні народных мастакоў, заслужаных дзеячаў мастацтваў.

Кіраўнікі і выкладчыкі ВНУ абмеркавалі таксама праект новага палажэння аб мастацкай ВНУ, з асноўнымі раздзеламі якога пазнаёміў начальнік навукова-метадычнага аддзела па мастацкай адукацыі і эстэтычным выхаванні АМ СССР Леў Шэпелеў.

У рабоце нарады прымаюць удзел сакратар ЦК КПБ В. А. Пячэннікаў, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. М. Мазай.

**БЕЛТА.**

*Працяг тэмы*

**Публікацыя «Ракаўскі «дыснэй-лэнд»!», змешчаная ў «ЛіМе» 31 сакавіка, а таксама далейшае даследаванне пісьменніцы Юліі Канэ, змешчанае ў тым жа нумары штотыднёвіка, выклікалі шматлікія чытацкія водгукі. У прыватнасці, прыйшоў ліст, падпісаны супрацоўнікамі інстытутаў біяарганічнай хіміі, радыебіялогіі і эксперыментальнай батанікі Акадэміі навук БССР (усяго 264 подпісы), у якім адзначаецца: «Ракаў і яго наваколле непасрэдна мяжуюць з запаведнай зонай Налібоцкай пушчы; рака Іслач і яе прытокі нясуць свае воды непасрэдна ў Налібоцкую пушчу. Такім чынам, экалагічна небяспечнае забруджванне асяроддзя, непазбежнае пры вялікім скапленні людзей і інтэнсіўным руху аўтатранспарту, паставяць пад пагрозу само існаванне унікальнага заказніка, які, на думку вучоных, лічыцца сярэднееўрапейскай тайгой, што захавала пакуль вельмі рэдкія віды раслін і жывёл».**

**Прыслухаемся да голасу вучоных. І яшчэ пазнаёмімся з думкай пісьменніка А. Асіпенкі і чытачоў «ЛіМа».**

# БЕЗ УМОЎ І УЛЬТЫМАТУМАЎ

Склалася парадаксальная сітуацыя.

Уявіце, нейкі вельмі багаты дзядзька ў асобе навукова-вытворчага аб'яднання раптам захацеў аддаць два з паловай мільярды рублёў беднаму сваяку ў асобе Міністэрства культуры БССР. Захацеў — і ўсё. У яго, можа, грошай куры не дзяўбуць. Такое не можа быць? Можа, калі дзядзька — з таго непадкантрольнага грамадскасці ведамства, якому мы аддаём ільвіную долю агульнадзяржаўнага бюджэту.

Аднак цяпер, у пару галоснасці, і таму ведамству і добраму дзядзьку стала цяжкавата хаваць канцы ў вадзе, а грошы ў банкаўскім сейфе. Таму і захацелася яму «аддаць людзям даўгі». Сумленныя людзі заўсёды аддавалі даўгі ды яшчэ дзякавалі, што іх некалі выручылі. Гэта элементарна.

Але дзядзька не проста захацеў аддаць доўг, а з умовай: грошы павінны быць выдаткаваны на пэўную мэту, а менавіта: стварыць пад Мінскам, у раёне мястэчка Ракаў «парк цудаў», гэткі «дыснэй-лэнд», што пад Лос-Анжэлесам. А чаму і не стварыць? Чаму зачарнобыленай, занітрачанай, заменіяраванай партызанскай Беларусі не быць пятай краінай у свеце, якія маюць «цуда-паркі»?

Ідэя багатага дзядзькі вельмі даспадобы прыйшлася некаторым дзеячам культуры. «Бо звычайнай, «чарнавой» працай лаўры не здабудзеш. А тут такі праект! Калі добра пагудзець, дык, можа, і ў першыя шарэнгі перабудоўшчыкаў выйдзеш. І вось нейкія «мы» падалі «нашу» ідэю і нават абвясцілі конкурс на праект такога «парку цудаў». А галоўны інспектар Міністэрства культуры БССР Н. Ходар узяла на сябе адказнасць прадстаўляць на гаворцы ў рэдакцыі «ЛіМа» інтарэсы тых самых «мы», якія пакуль хаваюцца ў цяню. Калі ўзяла, з яе і спаганяць будзем. А пачнём вось з чаго.

Ці ёсць справа галоўнаму інспектару тав. Ходар да таго, што паркі нашых гарадоў і селішчаў— некаторыя з іх унікальныя —крыкам крычаць аб дапамозе і ратунку ад заўчаснай смерці? Да таго, што будынак Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета БССР сваім аблупленым, непаглядным выглядам выклікае сум і сорам? Да таго, што Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У. І. Леніна задыхаецца ад цеснаты? Ці ведае Н. Ходар, што шэраг музычных, харавых, танцавальных калектываў не маюць сталага прытулку?

Во куды б скіраваць вернутыя народу грошы! Дзе там! Н. Ходар з упартасцю, вартай лепшага прымянення, адстойвае ідэю «парку цудаў». Або парк, або нічога!

Такім чынам, у рэальным жыцці існуе той, хто дае, і той, хто бярэ. Але ёсць і трэцяя сіла — грамадскасць, — якая, праўда, пакуль нясмела, але таксама настойліва ўзнімае свой голас супраць задумы багатага дзядзькі і беднага сваяка. Сутнасць аргументаў грамадскасці зводзіцца да наступнага:

ці маральна ўсчынаць гаворку пра «парк цудаў», калі не ліквідаваны вынікі чарнобыльскай трагедыі?

ці маральна наогул весці гаворку пра «парк цудаў», калі не хапае жылля, бальніц, паліклінік, прадуктаў, дарог і шмат чаго іншага?

ці маральна гаварыць пра «парк цудаў», калі ў гарадах утварылася пагрозлівае экалагічнае становішча?

ці не лепей было б выдаткаваць 2,5 мільярда на больш важныя для народа справы?

Аргументы пераканаўчыя. Але яны не прымаюцца ў разлік. І зноў: або парк, або нічога! «Я асабіста не магу пагадзіцца з пазіцыяй газеты», — заявіла на прыканцы размовы Н. Ходар. Справа, вядома, яе. Але ж яна прадстаўляла Міністэрства культуры БССР. Пакрыўдзіўся і прадстаўнік «добрага дзядзькі» В. Зуйкоў, які абараняў інтарэсы навукова-вытворчага аб'яднання.

Можна зразумець Н. Ходар: 2,5 мільярда рублёў, а гэта чвэрць дзяржаўнага бюджэту нашай рэспублікі, пададзеныя на талерачцы з блакітнай аблямовачкай, маглі асляпіць каго хочаш. Нездарма ж пяецца: людзі гінуць за метал. Але як у такім разе зразумець пазіцыю навукова-вытворчага аб'яднання ў асобе начальніка аднаго з аддзелаў, якое абавязкова хоча падараваць мінчанам «цуд-парк» пад Ракавам з амерыканскім размахам?

Пазіцыя, што і казаць, нестандартная, загадкавая і дзіўная.

Толькі неразумнае дзіця можа паверыць Н. Ходар, што дырэкцыя навукова-вытворчага аб'яднання (НВА) раптам успомніла пра свае даўгі і выклала на стол 2,5 мільярда рублёў. Дужа добра нам вядомы ведамасны эгаізм, каб паверыць у прыгожую казачку. Ведамствы стараюцца пацягнуць з рэспублікі, а не даваць ёй. Тады чаму В. Зуйкоў з не меншай апантанасцю адстойваў ідэю стварэння «парку цудаў»?

Перачытаўшы выказванні В. Зуйкова на сустрэчы ў «ЛіМе», я не знайшоў там тлумачэння такога выскароднага жэсту з боку НВА. Затое я пераканаўся, што ідэя стварэння парку

## РАДКІ З ПІСЬМАЎ

**Як вясковы жыхар, хачу сказаць некалькі слоў наконт мяркуемага стварэння «парку цудаў» пад Ракавам.**

**Мне здаецца, што людзі, якім прыйшла ў галаву такая ідэя ў нялёгкі для дзяржавы час, адарваліся ад жыцця, не ведаюць альбо не жадаюць ведаць першачарговых патрэб народа. Многія нашы вёскі, машынныя двары, фермы ў непагадзь тонуць у гразі, у нас дрэнныя дарогі. Вясковыя школы, дзіцячыя сады матэрыяльна бедныя, няўтульныя. Кепскае медыцынскае абслугоўванне, убогія асяродкі культуры, амаль пустыя магазіны. Многія вясковыя працаўнікі жывуць у благім жыллі, а некаторыя з тых, хто ўжо адпрацаваў сваё, атрымліваюць нізкую пенсію. І вось у гэты час, калі, здавалася б, кожны дзяржаўны рубель павінен быць на ўліку і разумна скарыстоўвацца, мы збіраемся раскідвацца мільярдамі ў імя нейкага там увесялення.**

**Р. ІГНАЦЕНКА.**

в. Паплавы, Бярэзінскі раён.

**Лічу неабходным выказаць сваю нязгоду з планамі будаўніцтва «дыснэй-лэнда» пад Ракавам. Я зразумеў так, што Міністэрства культуры, «Белатракцыён» і людзі са «скрыні» (ці,**

*Перабудове—ідэі абнаўлення*

# ТАКІЯ ПРАВІЛЫ ГУЛЬНІ?

«Памяць, гісторыя, веды плюс Свабода Волі ёсць Свядомасць».

У. КАРАТКЕВІЧ.

Вычытаўшы, што У. І. Ленін у царскай турме для канспіратыўнай перапіскі скарыстоўваў малако, дачка правяла дослед. Усё, здаецца, рабіла як належыць, але тэкст, напісаны малаком, і не думаў праяўляцца. Адгадка прыйшла сама. Ільіч пісаў сапраўдным малаком, што з-пад каровы, тлумачу я, а ты— магазінным. Паглядзі, пасля яго бутэльку мыць неабавязкова. Як жа яно можа праявіцца?..

Я ўспамінаю гэты забаўны выпадак заўжды, калі некаторыя кіраўнікі публічна адмаўляюць наяўнасць прывілей. Бо мне асабіста вядома, што бліз аднаго гарадскога мікрараёна пасвіўся ладны статак — спецыяльна для патрэб наменклатуры і яе сем'яў. У адной з гаспадарак пад Мінскам для іх жа вырошчваецца гародніна. Без усялякіх там, заўважце, гербіцыдаў ды суперфасфатаў — толькі старым дзедаўскім спосабам.

Калі ўзнікае патрэба адбіць чарговую журналісцкую атаку (даліся ім тыя прывілеі!), усе, як згаварыўшыся, ківаюць на сталы заказаў, што існуюць пры буйных прадпрыемствах. Сапраўды, там неблагое забеспячэнне. Да нядаўняга часу рабочы люд быў адзінай катэгорыяй насельніцтва, якая ў выпадку чаго магла і характар паказаць. Не, не тады, калі саюзныя ведамствы эксперыментавалі з Палессем ці браліся будаваць АЭС ля сталіцы. І не ў знак пратэсту супраць згортвання ў Беларусі беларускай школы. Калі з прадуктамі здараліся перабоі — вось калі. Узровень сацыяльнай актыўнасці тады рэзка ўзрастаў, у свядомасці прачыналіся засвоеныя з юных год ісціны пра авангард і гістарычную місію, і, бывала, нават спыняўся каторы цэх — да чарговага прывозу.

Неяк паэт з «Тутэйшых» (гэта было пры старой выбарчай сістэме) прарваўся ў Дом афіцэраў на сустрэчу дэпутата, кіраўніка высокага рангу, з выбаршчыкамі. З цяжкасцю паэт дабіўся, каб таму перадалі яго запіску. У вялікай зале, дзе сядзела гарадская рабочая эліта, ён быў адзіным чалавекам, каго хвалявала не толькі харчовая праграма. Усе астатнія пытанні, кажучы фігуральна, былі «пра кілбасу».

Зразумейце мяне правільна: я таксама хацела б менш стаяць у чэргах, лепш карміць і лепш апранаць сваю сям'ю. Але ж не хлебам адзіным жывем! Зараз, калі ёсць магчымасць выказацца — і ў друку, і з трыбуны, усё часцей людзі вышэй матэрыяльных інтарэсаў ставяць духоўныя, усё ахвотней размаўляюць не пра «шмоткі», а пра палітыку. У гэтым — найпершы і найважнейшы пакуль што вынік перабудовы.

А колькі гаворак пра выбары, пра кандыдатаў з іх платформамі, пра сродкі агітацыі! Давялося чуць, што ў час сёлетняй перадвыбарчай кампаніі шумную галёрку супакойвалі ўпэўненыя ў сабе «гегемоны». Маўляў, «хватит болтать, дело надо делать». Аднак, згодна старажытнай усходняй мудрасці, паміж добрай **думкай** і добрай **справай** ёсць добрае **слова**.

Відавочна, што і справу ў нас разумеюць па-рознаму. Адны— як рух да суверэнітэту і дэмакратыі, другія — проста як вытворчасць матэрыяльных даброт, як працу непасрэдна ў цэху, на будоўлі і г. д. Хто тут мае рацыю? «МАЗы», трактары і шэсцерні ў нас і раней выпускаліся ў значнай колькасці, як і шмат што іншае. А ўжо колькі ўвагі ім надавалася! Гадоў пяць назад як уключыш радыё, дык толькі і чуеш пра вузлы ды агрэгаты і пра тое, хто якія ўзяў абавязацельствы. Што не перашкодзіла краіне дайсці да крызісу. Некаторым прадстаўнікам Адміністрацыйнай Сістэмы хацелася б звесці перабудову да чарговай кампаніі па барацьбе за якасць тавараў і рост прадукцыйнасці працы. Іх можна зразумець: палітычная актыўнасць мас для іх — смерці страшней. Дзівіць іншае: згаданую «канцэпцыю» перабудовы падтрымліваюць не адны апаратчыкі. У гэтай сувязі працытую меркаванне чытача «Комсомольской правды» (нумар за 25 сакавіка г. г.): «Па-мойму, многае з таго, што можна было б змяніць сёння, не мяняецца з-за безыніцыятыўнасці рабочых. Чаму рабочых? Таму што іх большасць. Ад іх ведаў, культуры залежыць, ці будзе ў нас будучае».

Вядомы публіцыст Г. Лісічкін неяк параўнаў наша грамадства з чалавекам, які толькі-толькі зняў з ног гіпс і нанова вучыцца хадзіць. Але ж знялі ўсё-та-

больш верагодна належыць менавіта НВА.

Мяркуйце самі, такая салідная арганізацыя, як навукова-вытворчае аб'яднанне, павінна была б з самага пачатку нарадзіць юрыдычны дакумент, у якім бы канкрэтна і дакладна вызначаліся прававыя, фінансавыя, гаспадарчыя адносіны паміж двума вельмі рознымі ведамствамі — НВА і Міністэрствам культуры, агаворваліся гарантыі і санкцыі, абавязкі і адказнасць абодвух бакоў. Пра яго, аднак, ніхто не ўспомніў. Мусіць, такога дакумента няма. А значыць, танец заказвае той, хто дае грошы, у дадзеным выпадку НВА. А што міністэрства? А яно, хутчэй за ўсё, страха над галавой. Выходзіць, «парк цудаў» найперш за ўсё патрэбны НВА. Дзеля чаго?

Ёсць дзве версіі.

Паводле адной навукова-вытворчае аб'яднанне даўным даўно намагалася зрабіць на Іслачы вадасховішча, але яму ў гэтым было адмоўлена. Дык быццам бы цяпер і ўзнікла ідэя ўсё ж збудаваць такое вадасховішча, але ўжо ў комплексе «парку цудаў».

Мне больш верагоднай здаецца другая версія.

Вось што сказаў на размове ў «ЛіМе» начальнік упраўлення «Белатракцыён» Міністэрства культуры БССР А. Калінін:

«Так, сапраўды, атракцыёны ў рэспубліцы знаходзяцца не ў лепшым стане, бо ім ужо шмат гадоў. Таму вырашана некаторыя прадпрыемствы рэспублікі, якія працавалі на абарону, перапрафіліраваць менавіта на вытворчасць атракцыённай тэхнікі. Першыя ўзоры і трапяць у паркі адпачынкаў, у прыватнасці, у «парк цудаў» пад Ракавам. Што тычыцца добраўпарадкавання парку Чэлюскінцаў, дык перанесці сюды эскіз-ідэю «парку цудаў» немагчыма, бо гэтай тэрыторыяй валодае, па-першае, горад...»

І тут яго перапыняе Н. Ходар і ўдакладняе:

«А, па-другое, тэрыторыя для нашай ідэі невялікая».

Тут, што ні аргумент, дык загадка. Але і адказ на пытанне.

Выходзіць, што адно ці некалькі прадпрыемстваў НВА будзе перапрафіліравана на выраб атракцыённай тэхнікі, але не для нармальных паркаў, бо інакш і парк Чэлюскінцаў падышоў бы для ідэі «парку цудаў», а для гіганцкіх комплексаў у дзесяткі гектараў. Дзе будуць будавацца такія паркі, апрача Беларусі, на гэта адказу чакаць марна. Я ўсё ж схільны думаць, што атракцыённая тэхніка будзе створана і для паркаў тыпу парку Чэлюскінцаў, Горкага, Лесапарку і інш. Справа тут у другім. Прадпрыемству па выпуску атракцыённай тэхнікі патрэбны своеасаблівы палігон для выпрабавання яе. Для палігона патрэбна тэрыторыя. За зямлю трэба плаціць. А тут з дапамогай Міністэрства культуры будзе атрымана зямля—тэрыторыя, на якой можна рабіць выпрабаванне атракцыённай тэхнікі. Такім чынам, 2,5 мільярда грошай застанецца ў кішэні НВА, а Міністэрства культуры і мінчане нічога не атрымаюць. Палігон ёсць палігон.

Калі б было іначай, дык Міністэрства культуры мела б на руках юрыдычны дакумент з гарантыямі на атрыманне нейкіх выгод. А так, хто можа гарантаваць, што народ нешта атрымае ад ведамаснай арганізацыі, якая больш клапоціцца пра свае выгады, чым пра выгады насельніцтва Мінска?

Колькі ўжо на маім вяку было прыкладаў, калі вось такія ведамасныя абяцанкі-цацанкі паварочваліся для рэспублікі страшнымі бедамі. На жаль, яны так і не навучылі даверлівых, а магчыма, і наўмысна даверлівых людзей. Расплачваюцца за беды не яны, а народ.

Вось чаму я з болем у сэрцы звяртаюся:

Таварыш беларускі ўрад, пашануй свой гонар, уладай, табе дадзенай, спыні заўзятых пражэкцёраў.

Прадбачу, што зацікаўленыя ў пражэкце кінуць мне папрок у тым, што высакароднае НВА не «верне доўг» у 2,5 мільярда, калі яму адмовяць у ажыццяўленні праекта.

У сувязі з такой магчымасцю звяртаюся да ўсіх толькі што выбраных народных дэпутатаў з такой вось думкай. 2,5 мільярда — гэта чацвёртая частка Дзяржаўнага бюджэту рэспублікі, якой валодае ўсяго толькі адно аб'яднанне магутнага міністэрства — ці справядліва гэта? Ці не ёсць гэтыя грошы— той рэзерв, які так настойліва шукаюць нашы эканамісты? Дык, можа, вы, абраннікі народа, павернеце справу так, што мільярды будуць аддадзены не на ведамасныя забавы, а на надзённыя патрэбы народа?

З адным згодны: даўгі трэба аддаваць. Без умоў і ультыматумаў. **Алесь АСІПЕНКА.**

---

**як вы яе назвалі, з «аднаго мінскага навукова-вытворчага аб'яднання») ужо дамовіліся. Але такія паркі будуюцца перш за ўсё ў краінах, дзе сытыя, апранутыя, абутыя і, скажам так, рэспектабельныя грамадзяне жадаюць пазабаўляцца, дзе дзесяткі тысяч замежных турыстаў, дзе развітая будіндустрыя, вольныя рабочыя рукі і г. д. Няхай людзі са «скрыні» паспрабуюць прыкласці свае рукі да вытворчасці відэатэхнікі, персанальных ЭВМ і іншай экалагічна чыстай і навукаёмістай прадукцыі. Лепш на 2,5 мільярда рублёў пабудаваць аўтазавод па вытворчасці «легкавушак».**

**С. САВІЦКІ.**

г. Жодзіна.

□

**Я нарадзілася і вырасла ў Ракаве, там і зараз жывуць мае родныя. Наколькі я памятаю, кожная чарговая ўстанова, беручы дазвол на будоўлю ў Ракаўскім сельсавеце, штосьці ды абяцала. Напрыклад, просячы дазволу на будоўлю дзіцячага санаторыя ў старым сасновым парку каля кургана, абяцалі пабудаваць бальніцу для Ракава. Але, як кажуць у народзе, «абяцанкі-цацанкі»... Ракаўская бальніца, якая абслугоўвае навакольныя вёскі, у якую вязуць параненых у аварыях на шашы для першай дапамогі, знаходзіцца ў старым доме ксяндза за касцёлам. Ні гарачай вады, ні ацяплення, ні каналізацыі ў бальніцы. Дзяцей з піянерскіх лагераў прывозяць мыць у яшчэ дарэвалюцыйную лазню. А прырода! Вось прыклад. Пасля пабудовы штучнага возера ў Аксакаўшчыне ўзровень вады моцна ўпаў не толькі ў Іслачы, але і ў мясцовых калодзежах.**

**Спадзяюся, што грамадскасць дапаможа абараніць гэтыя мясціны ад «цуда»-будоўлі і зверне ўвагу на элементарныя патрэбы жыхароў Ракаўшчыны.**

**Г. КІЯВІЦКАЯ,**
**малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута ядзернай энергетыкі АН БССР.**

г. Мінск.

---

кі, скінулі! Але ж рухаемся, хоць і з цяжкасцю! Самы час і беларускаму працаўніку адарвацца на момант ад канвеера, ад руля, ад ватмана ды задумацца: хто мы ёсць? Дзе нашы святыні? Ці жывы наш дух?

Які там дух, якія святыні, калі, скажам, газетныя водгукі на мітынг — як інкубатарскія кураняты! Пад імі фігуруюць прозвішчы і сакратара райкома, і настаўніка, а найчасцей чамусьці «адгукаюцца» на непажаданыя для чыноўнікаў падзеі фрэзероўшчыкі, наладчыкі, будаўнікі... Не выключана, што меў месца маральны націск. Але давайце прызнаем, што апалітычнасць, раўнадушша, няўменне адрозніць белае ад чорнага — рысы ўсё яшчэ даволі тыповыя, ад іх адно прадстаіць пазбавіцца айчынным пралетарыям. (Куды вядзе паспешлівае падтакванне, добра бачна па нашых прафсаюзах).

Колькі разоў чула ад завадчан: «Няўжо ў вас штосьці перамянілася? У нас на заводзе ўсё па-старому». А потым раскажуць, як дырэктара «выбіралі», якое гэта было прадстаўленне, як прэмію дзяліла адміністрацыя... Людзі ўсведамляюць, што навакол яшчэ многа брыдкага, затхлага, але правілы гульні, тым не менш, захоўваюць. Славутая псіхалогія «вінціка»: а што я магу? Затое актыўнічае рабочая «арыстакратыя». Яна і пастаўляе прэсе «аднадудцаў», як дасціпна ахрысціў іх паэт. «Аднадудцы» на акружных сходах беспамылкова вызначаюць «сваіх» кандыдатаў, на мітынгах звыкла папракаюць нефармалаў за нежаданне працаваць, кляймяць міфічных захопнікаў улады (як быццам ім яна належыць!). Палітыкай, па-іхняму, не сорамна займацца тады, калі падганяюць аўтобусы і выдзяляюць лепшыя месцы — у партэры, а не на галёрцы. Ведамасныя, вузкацэхавыя інтарэсы, па ўсёй бачнасці, засланілі для іх справу агульнанародную, агульналюдскую. Дэнацыяналізаваныя па сутнасці, яны ваяўніча адмаўляюць усё, што звязана з пытаннямі жыццядзейнасці нацыі. Бо тут іх «радзімчык», боль іх падсечанага сялянскага кораня.

Многае са сказанага можна было б аднесці і да іншых слаёў насельніцтва. Узровень нацыянальнай свядомасці напрамую звязаны з палітычнай і сацыяльнай свядомасцю. Яны ўзаемна абумоўлены, гэта звенні аднаго ланцуга. Вось чаму горкія словы М. Багдановіча — «Народ, Беларускі Народ! Ты цёмны, сляпы, быццам крот»— і сёння, на жаль, не здаюцца састарэлымі. Цяжкасці ідэалагічнай перабудовы (што непазбежна адбіваецца на эканоміцы, асвеце, культуры)—з'ява ва ўмовах рэспублікі заканамерная. Яна—вынік даўняй, нязжытай дасюль «цемнаты». Толькі ўсвядоміўшы гэта, зможам яе пазбыцца. Разам. Агульнымі намаганнямі.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

---

# РЫХТУЕЦЦА ЭКСПЕДЫЦЫЯ ПА ДНЯПРЫ

**У Доме літаратара адбылася сустрэча беларускіх літаратараў і вучоных з гасцямі — пісьменнікамі і вучонымі з Кіева і Смаленска. Па ініцыятыве творчай секцыі публіцыстаў СП БССР рыхтуецца экспедыцыя па Дняпры, ад вытокаў да вусця, якая пачнецца ў сярэдзіне жніўня. У склад культурна-экалагічнай экспедыцыі, акрамя літаратараў, увойдуць кваліфікаваныя спецыялісты рознага профілю. Беларускую групу экспедыцыі ўзначаліць пісьменнік А. Жалязоўскі.**

**Абмеркавана праграма ўсіх груп па далейшай падрыхтоўцы і матэрыяльным забеспячэнні падарожжа. Мэта экспедыцыі — вывучэнне і адлюстраванне стану ракі і жыцця на яе берагах у творах мастацкай публіцыстыкі, у кнігах і на экране. На думку арганізатараў экспедыцыі, неабходна таксама стварыць грамадскі камітэт па абароне Дняпра.**

**У абмеркаванні пытанняў, звязаных з экспедыцыяй, прынялі ўдзел загадчык аддзела савета па вывучэнні вытворчых сіл АН УССР У. Максімчук, доктар геаграфічных навук прафесар В. Шырокаў, вучоны сакратар навуковага савета АН БССР па праблеме Палесся Л. Ярашэвіч, краязнаўца У. Грушэнка, адказны сакратар Смаленскай абласной пісьменніцкай арганізацыі В. Смірноў, пісьменнікі А. Дмітрэнка, В. Карамазаў, А. Махнач, А. Петрашкевіч, П. Прыходзька, В. Якавенка.**

**Наступнае пасяджэнне аргкамітэта экспедыцыі вырашана правесці ў маі.**

---

# НА АДНУ ДОШКУ...

**Водгукі чытачоў на Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 31 сакавіка г. г.**

Новы Указ нашага вярхоўнага органа ўлады не прайшоў без увагі грамадскасці рэспублікі, у тым ліку і чытачоў штотыднёвіка. «Першы раз у жыцці звяртаюся ў газету, — пачынае свой ліст інжынер-фізік, супрацоўнік НДІ прыкладных фізічных праблем **А. Сасімовіч.**— Але, відаць, прыспеў якраз той момант, калі прамаўчаць было б недаравальна. Думаю, што не перабольшу, калі скажу: Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 31 сакавіка з'яўляецца ў пэўным сэнсе замахам на перабудову. Паспрабую даказаць сваё меркаванне. У краіне ўзяты курс на пабудову прававой дзяржавы. Гэта, апрача іншага, азначае, што менш паўнамоцтваў па пакаранню грамадзян, якія парушаюць закон, павінна застацца ў адміністрацыйных органаў, што яны павінны перадаць іх народным судам. Але Указ ад 31 сакавіка змяняе стан рэчаў у іншым напрамку, пашыраючы карныя паўнамоцтвы міліцыі і адміністрацыйнага суда. Акрамя таго, значна павялічваецца тэрмін адміністрацыйнага затрымання, што ва ўмовах нашай сённяшняй прававой сітуацыі з'яўляецца трывожнай прыкметай. Што датычыць свежаспечанага артыкула $167^2$, то тут, як гаворыцца, і грэх, і смех праз слёзы. Ну, скажыце, які сцяг, вымпел, эмблема ці сімвал могуць як-небудзь нанесці шкоду «дзяржаўнаму і грамадскаму парадку, правам і законным інтарэсам грамадзян?» Безумоўна, у якіх-небудзь фанатыкаў можа выклікаць абурэнне і жаданне самасуду з'яўленне ў грамадскім месцы, напрыклад, чалавека з кнігай «Д'ябальскія вершы» ў руцэ. Ведаю, што шмат людзей кінуліся б «чысціць лыч» таму, хто з'явіўся б на Ленінскім праспекце ў нарукаўнай павязцы са свастыкай. Але ці бачылі мы нешта падобнае хоць бы ў рэдкіх выпадках? Я асабіста такога не бачыў і не чуў. Дык чаму міліцыі даецца картбланш у справе карыстання сімваламі?..»

А. Сасімовіч падрабязна спыняецца на артыкулах Указа, скіраваных супраць спекуляцыі, і лічыць, што яны пакідаюць лазейкі для рознага, неадназначнага тлумачэння, для «разгулу адміністрацыйна-міліцэйскага свавольства».

Са свайго боку, навуковы супрацоўнік **Я. Бальшакова** паведамляе рэдакцыі: «Нягледзячы на строгія дапаўненні Кодэкса, цыганкі як прадавалі, так і прадаюць польскую касметыку ў падземных пераходах насупраць філармоніі і ЦУМа. А супрацоўнікі міліцыі, якіх тут, як вядома, нямала, як глядзелі на гэта праз пальцы, так і глядзяць. Усміхнуцца, перамігнуцца з гандляркамі і праходзяць міма... Дык супраць каго скіраваны пункты Указа аб продажы тавараў у неўстаноўленых месцах? Супраць тых, хто прадае значкі?»

«Відаць, была нейкая аб'ектыўная неабходнасць унесці дапаўненні і змены ў Кодэкс Беларускай ССР аб адміністрацыйных парушэннях, — піша інжынер НВА «Гранат» **А. Яцкевіч.** — Але не зусім зразумела, чаму ва Указе адно змешана з другім. На адну дошку пастаўлены спекулянты і дэманстранты. Чытаю «ўдасканаленую» частку трэцюю артыкула 242 Кодэкса аб тэрмінах адміністрацыйнага затрымання асобы, што зрабіла адміністрацыйнае правапарушэнне. Тут сказана: «Асобы, якія зрабілі дробнае хуліганства, парушэнне парадку арганізацыі і правядзення сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў і дэманстрацый, незаконны продаж тавараў ці іншых прадметаў ці дробную спекуляцыю, могуць быць затрыманы да разгляду справы народным суддзёй або начальнікам (намеснікам начальніка) органа ўнутраных спраў». Бачыце, як, у якой прапорцыі змешаны тут розныя па сваёй сутнасці так званыя правапарушэнні».

«Дзіўна атрымоўваецца, — працягвае далей А. Яцкевіч.— З аднаго боку, сёння столькі пішацца і гаворыцца аб дэмакратызацыі, якой мы толькі яшчэ вучымся, аб тым, каб у нас была сапраўды прававая дзяржава, а з другога боку, прымаем яўна недэмакратычныя пастановы і ўказы. І гэта не толькі мая думка. Размова пра новы Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ішла і на нечарговым справаздачна-выбарчым сходзе камсамольцаў НВА «Гранат». Маладыя інжынеры і рабочыя з абурэннем гаварылі пра непрадуманыя палажэнні Указа, пра двухсэнсоўнасць некаторых яго артыкулаў. На сходзе было прынята рашэнне паслаць рэзалюцыю пратэста ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР і ў рэдакцыі газет».

«Нельга маўчаць», — так назваў свой ліст калега А. Яцкевіча па прафесіі, інжынер **А. Шапашнікаў.** «Артыкулы $167^2$ і 172 новага Указа, — піша ён, — уступаюць у супярэчнасць з такімі паняццямі як галоснасць і дэмакратыя, ставяць пад сумненне гарантаваныя нам Канстытуцыяй БССР свабоды — свабоду слова, друку, сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў і дэманстрацый. А змяненні артыкула 242 адкрываюць дадатковую магчымасць амаль беспера шкоднага затрымання на няпэўны час ледзь не любога няўгоднага ўладзе чалавека. Пад прыкрыццём змагання з «дробнай спекуляцыяй» робіцца замах на недатыкальнасць асобы, узаконьваецца элементарнае беззаконне».

Свае адносіны да Указа выказаў вядомы спявак, заслужаны артыст БССР **В. Скорабагатаў.** Ён уносіць прапанову, каб Указ ад 31 сакавіка быў разгледжаны на чарговай сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі. «Хацелася б, — піша далей В. Скорабагатаў, — каб дэпутаты абмеркавалі, якім чынам новыя дапаўненні і змяненні да адміністрацыйнага кодэкса садзейнічаюць пашырэнню галоснасці, свабоды слова, дэманстрацый, інакш кажучы, — руху наперад нашай перабудовы».

Выказванні чытачоў не патрабуюць, па сутнасці, каментарыяў. І нам застаецца толькі дадаць адно меркаванне. Калі мы маем намер сапраўды ўсталёўваць законнасць, ствараць прававую сістэму, то наўрад ці дасягнем гэтай высакароднай мэты такім вось шляхам — шляхам новых рэгламентацый, забараняльніцтва, новымі, наспех сфармуляванымі артыкуламі крымінальнага ці адміністрацыйнага кодэксаў.

**Аддзел пісьмаў і грамадскай думкі «ЛіМа».**

**Мікола АРОЧКА**

# Маланка на ростанях

**Роздум над новай кнігай Пімена ПАНЧАНКІ**

ПАЭЗІЯ Пімена Панчанкі — пэўна, не толькі ў маім уяўленні — гэта зыркаякучае ззянне маланкі, пры якім імгненна высвечваюцца абрысы рэчаў, кантрастна праступаюць глыбіні складаных з'яў. Такое ўражанне замацавалася, вядома, не толькі дзякуючы назве адной з вядомых кніг паэта — «Пры святле маланкі» (1966). Яна насцеж была расчынена свежай вятрыстасцю грамадскіх перамен, звязаных з XX з'ездам партыі. Тады, на рубяжы 50—60-ых гадоў, з'явілася іх цэлая абойма, кніг-маланак, крытычна-наступальных, упершыню так ваяўніча, па-грамадзянску разняволеных — у Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, а неўзабаве і ў іх наступнікаў, у майго пакалення — Н. Гілевіча, А. Вярцінскага, Р. Барадуліна, Г. Бураўкіна...

Таму, чытаючы вершы новай кніжкі П. Панчанкі «Горкі жолуд», міжвольна ўнутраным слыхам чую, як перагукваюцца праз чвэрць веку два навальнічныя дзесяцігоддзі (на справе — эпохі!) — сённяшняе і тое, што пачалося з другой паловы 50-ых. Колькі гарачай магмы праўдалюбства, бескампраміснасці, ліра-сатырычнага выкрыцця, іроніі, смеху прарвалася тады з творчых кратэраў! Грудзям дыхнулася шырока, абнадзеена. «Багі» і ўсё іх культаўска-бюракратычнае параджэнне апынуліся пад бліскавічнымі дзідамі паэзіі.

**Мы ведаем, хто**
**Загнаў у тупік нашы справы.**
**Сёння нас не асляпіць**
**Яркасць хлуслівага грыму.**
**У нашых сэрцах,**
**Што так цяжка дайшлі да праўды,—**
**Непрымірымасць,**
**Непрымірымасць...**

На якім скрыжаванні часу маглі ўзнікнуць гэтыя радкі? Яны ўзяты з першай старонкі новай кніжкі паэта, з праграмнага верша «Непрымірымасць», але па духу (і па часе нараджэння) твор гэты мог бы стаяць поплеч з такімі шырокавядомымі рэчамі, як «Прыстасаванцы», «Трэснула, грукнула...» і інш. Аднак вышэйпрыведзеныя радкі, калі чытаць іх у кантэксце твора, маюць сваё як бы дадатковае, трывожнаўзмоцненае гучанне. Іх кантэкстам з'яўляецца ўжо сённяшні дзень. Таму міжволі задумваешся аб эвалюцыі часу, аб эвалюцыі мастацкага таленту паэта. Пякельная нотка — вось яна:

**Ды ў складаным жыцці**
**Мы прагледзелі**
**Нешта важнае,**
**І пазмрачнелі нашы надзеі.**

«Пазмрачненне» — гэта ўжо цалкам з сённяшняга светаадчування, з нясцерпна-балючай сутнасці сённяшніх нашых нечуваных сацыяльных і нацыянальных ускладненняў. У ваяўніча-наступальны тон закралася *пранізліва-мінорная* танальнасць — на мяжы роспачнага роздуму. Ад першага ў кніжцы верша няўмольна пралягае, нібы *хістаючыся над прадоннем*, «мосцік» да верша апошняга, які ўразіў моцна яшчэ па лімаўскай публікацыі. Гэта «Развітанне», — ім завяршаецца кніжка. Якое нарастанне матываў, якая логіка вобразаў падводзіць нас да заключнага псіхалагічна цяжкога стану?

Спачатку паэт уводзіць нас у пагрознае прадвесце («Гістарычны верлібр», «Фадзееў у Мінску»). Наша гістарычна-культурная спадчына ведае нямала парадаксальных выпадкаў «добраахвотнага» нігілізму. Хоць мы разумеем, што за прыкрымі ўчынкамі стаіць найчасцей жорсткая воля ўладароў, неспрыяльных абставін, асіміляцыйнага гвалтоўніцтва. Вось Адам Міцкевіч спрабуе ажыццявіць свой высакародны намер —

**Прачытаць у Мінску лекцыю**
**Пра дзіўныя казкі, легенды і песні**
**Беларускага народа,**
**З якіх ён чэрпаў поўнымі жменямі**
**Жывую ваду**
**Для сваіх вершаў, балад і паэм;**
**Пра хараство свіцязянскай прыроды,**
**Пра чароўнасць і мілагучнасць**
**Беларускай мовы.**
**Але дзеячы міні-культуры**
**Забаранілі лекцыю.**
**Міцкевіч засмуціўся,**
**Паехаў у Парыж**
**І прачытаў пра ўсё гэта ў Сарбоне**
**Шмат ашаламляльных,**
**Хвалюючых лекцый.**

Можа, царская палітыка падобных дыскрымінацый перапынілася, адышла, як і ўвесь той лад, у царства ценяў? Неверагодна, але сучасныя «мясцовыя ўлады» нешта аналагічнае («Як і калісьці ў царскі час!») учынілі з незвычайна каштоўнымі падарункамі, якія былі ахвяраваны ў дар беларускай культуры сусветна вядомымі мастакамі Надзеяй Хадасевіч (Лежэ) і Маркам Шагалам.

А вось выпадак не менш пагрозна-прадвяшчальны. На першы пасляваенны пісьменніцкі з'езд прыехаў Фадзееў, ужо сівы і «юны з ног да галавы», беларус па матцы (Бусыга), меў патаемную надзею — пачуць родныя і яму песні, што матуля пяяла. Ды гасцінец быў паднесены іншы — «пра уцёс», да таго ж, у халодна-бяздухоўным выкананні («Зажурыўся мудры Колас: «Саша, ты на нас не злуй — паліцэйскі трапіў голас, і па вобліку—халуй»). Ці прысутныя адчулі тады ў Коласавых словах жахлівае прадвесце сённяшняй культурна-моўнай сітуацыі? Ці мог здагадвацца Панчанка, што неўзабаве прыйдзецца яму ўзвысіць свой голас да гнеўнага прамаўлення (вершы, народжаныя «пры святле маланкі»), а *затым паўторна*, ужо ў сённяшнія дні, вярнуцца зноў да перапыненай на ўсхвалявана-гарачым дыханні тэмы, да выкрыцця тых жа «халуёў», прыстасаванцаў, бюракратаў, якія паспелі ўжо ўчыніць найгоршае? Цяпер гэта ўжо стала відочным: «Разагналі клас сялян...», калыску жыццятворнай стыхіі нашага нацыянальнага жыцця; «Развалілі ўсё, пагаспадарылі!» А раней — ці магло ўявіцца нешта падобнае? Напрошваецца цікавы штрых да творчай эвалюцыі паэта. Скажам, у разуменні разбуральных працэсаў у тым жа класе сялянства.

Улічваючы шчырасць бескампраміснага стаўлення паэта да сябе ранейшага, я дазволю сабе коратка спыніцца (дзеля супастаўлення) на адной толькі мясціне вядомай панчанкаўскай паэмы «Маладосць у паходзе» (1945). Напісаная пад час распачатай заходнебеларускай штурмавой кампаніі калектывізацыі, яна была надзённай, зразумела, у выкрыцці кулацтва: «Я ўзненавідзеў гэтых мукамолаў і пасечнікаў... іх кублы і свірны, цяжкія габляваныя вароты» і г. д. Нават у знарочыста згушчаных дэталях я не бачу сур'ёзных падстаў для тагачаснага выбуху гневу (мукамолы, пасечнікі, кублы, свірны, габляваныя вароты ды і рыжыя бароды — няўжо гэта так блага?) Трохі бянтэжыць і ўзрадаванасць: «Мы ж ішлі за кулакамі, на ўсю глотку з вясёлай бессаромнасцю крычалі: «Ага, ага, ў Сібір вас высяляюць, а мы ваш мёд і дулі будзем есці». «Наконт «дуляў», хоць і не хацеў аўтар, але сказалася з горкім прадбачаннем... А як адносіліся дарослыя вяскоўцы да вывазу «кулакоў?» «Узрадаваныя людзі яшчэ хавалі па праклятай звычцы за шулы вочы» — зноў уражвае гэтае асуджальнае «па праклятай звычцы». Чаму людзі ўсё-такі хавалі «за шулы вочы»? Пасля гэтага вобраза я ўжо не давяраю эпітэту «ўзрадаваныя». Усё ж нейкі сорам адводзіў вочы людзей, прымушаў іх хавацца за шулы. Відаць, нешта не зусім справядлівае, брыдотнае на вачах іх тварылася.

Творчая рухомасць Панчанкі ў тым, што ён несупынна ўмее нелітасціва пераглядваць сябе: «Быў часамі я прыдуркам, ды ніколі лёкаем» («Не сярдуйце, не крыўдуйце...»). Вось адна з прычын яго прагрэсіўнай творчай паступовасці. Не кожнаму дадзена пасля такіх перападаў у светабачанні дарасці да па-грамадзянску мужных вершаў «Горкі жолуд», «Тармажэнне», «Цыцэроны», «Паразіты», «Труба»... Вось радкі асацыятыўна цяжкога, невымерна горкага верша «Труба». Вобраз ужыты ў шматзначным плане, як і тыя «А» і «Б», што сядзелі, паводле дзіцячай загадкі, на трубе. Не, літара «Б» — не ўмоўнае абазначэнне бюракрата, так мне здалося. Сэнс падказваецца хутчэй за ўсё літарай «А» — як асновы жыцця, першапачатку, якім выпала, на жаль, апынуцца на бюракратычнай трубе:

**Нібы камчацкі кратэр,**
**Нашы землі труба**
**Засмуродзіла,**
**Задыміла:**
**Дорага ды міла!**

Вострая палярнасць сэнсу супярэчлівых з'яў схоплена гэтай дакладна-хлёсткай рыфмай («задыміла» — «ды міла»). Майстар умее перагуквацца такой рыфмоўкай сэнсава-важка, віртуозна. Труба даўно смуродзіць, яна як істотнае складаемае сістэмы (за ёй менавіта такое абагульненне) паказала поўную сваю непрыдатнасць, нягоднасць, каб спрыяць прагрэсу. Але ж яна так дорага каштавала нам: дзесяткі мільёнаў жыццяў, падцятых сталіншчынай, уцягнула яна ў сваю топку. Колькі матэрыяльных і людскіх рэсурсаў, нечуваных высілкаў растрачана на гігантаманію («Мы ўзвялі бюракратычную трубу грандыёзную, адыёзную»), на таталітарна-камандную сістэму эканамічнага гаспадарання і нацыянальнага зверху — кіравання! Дорага аплачана, але камусьці ўсё гэта яшчэ міла! Гучнае сугалоссе рыфмаў заклікана не для паказу гармоніі, а для выяўлення страшэннай дысгармоніі з'яў і рэчаў, для ўзрывання шматлікіх антаганізмаў сістэмы («Тут пануе непрацавітасць, а прагавітасць: не рабі, а грабі», «Хто арэ, а хто глотку дзярэ»).

Супярэчнасці, на жаль, моцна ўзаемапавязаны, як, скажам, «клас» бюракратыі — і клас сялянства, навала асіміляцыі — і родная мова, культура. З аднаго боку — «гэта клан, гэта клас, гэта гразь» («Мы стаміліся ад ілжы: столькі год нам з трыбунаў манілі!»), з другога — каштоўнасці, што выпрацаваў «народ мой, церпялівы, працавіты» — *да яго заступніцтва* далучаецца абурана-ўзгневаны голас паэта. Ёсць у новай кніжцы цудоўны верш «Беларуская мова» (*пра яе, здаецца, не ве*дае слабых вершаў наша паэзія), дзе мяккая танальнасць любавання, замілавання («Ільняная і жытнёвая. Сялянская. Баравая ў казачнай красе...» нечакана змяняецца растрывожаным грамадзянскім прамаўленнем:

**Я спяваў пра жыта і пра жаўранкаў,**
**Ненавідзеў акупантаў і прыгнёт,**
**А сягоння — вялікадзяржаўнікаў,**
**Што разбэсцілі вялікі мой народ.**
**Навучылі не рабіць —**
**Хлусіць і красці.**
**Дзеці ў школы з іншай мовай бягуць.**
**Я хацеў, нашчадкі, вас праклясці,**
**Ды люблю сваю зямлю... і не магу.**

І раней, мы ведаем, Панчанка спяваў не толькі пра жаўранкаў. Аднак гнеўны выкрывальнік усемагчымага гатунку прыстасаванцаў і хапуг, ён часта дазваляў сабе лупцаваць вынік, не зазіраючы ў карані, у першапрычыны. Пачварныя праявы не зводзіліся ў сістэму. Цяпер жа выразна бачыцца не толькі тое, да чаго «давялі» мажныя бюракратычныя дзядзі («Паразіты»), але чаму і якім чынам пакацілася гаспадаранне «па нахільнай». Акцэнты ставяцца ажно, здаецца, з залішнім прыціскам («Навучылі не рабіць — хлусіць і красці»). Пэўная ж вучоба працы была і ёсць, не кажыце. Толькі якая? Якімі спосабамі і сродкамі дасягалася стварэнне каштоўнасцей, якім маральным адступніцтвам аплачвалася? У норму паводзін усё больш уваходзіла ржа наўмыснага падману, скажэнне рэальных фактаў. Выкрывальнае слова падключае нас да «садумання» над кроўна важным. Паўстае пытанне: калі шматмільённы бюракратычны «клан» давёў ужо цалкам сваю поўную непрыдатнасць быць сапраўдным гаспадаром у краіне, то хто ж ён, патэнцыяльны наш Гаспадар? Зжыў сябе стыль працы «разгневанага дзядзькі»: «націснуць і гаркнуць», нават калі рэальнага выніку-плёну не прадбачваецца. «Гаркнуць» трэба, каб смялей з'яўляліся з-пад рук тых, у каго яшчэ цепліцца сумленне, «прыпіскі, падман», дзьмутыя вялізныя пухіры «нечуваных поспехаў», рэкордаў, усё вышэйшых і вышэйшых паказчыкаў у папяровых спаборніцтвах.

**А ў справах і стравах**
**Чарнобыльскі прысмак.**

Вось, аказваецца, куды сягнула лжэ-лінія «па ўзыходзячай». У вершы «Паядынак» сказана яшчэ з больш сумотнай шматзначнасцю: «А ў мяне Чарнобыль на душы». Ёсць у вершах і цяжкая дэталізацыя: «Тут пахне Хірасімай. Няма слядоў бусліных і ласіных: над Прыпяццю нябачнай смерці след» — «усюды цьмяна, дымна, чорна». Фарбы, аднак, далёка не згушчаны. Да асэнсавання гэтай нашай нацыянальнай трагедыі суджана будзе ісці, відаць, многім наступным пакаленням.

Але я хачу крануцца таго, што ўжо сказана Панчанкам пра ўзаемаповязь разнастайных праблем. Гэта повязь перакідваецца з верша ў верш, вяжацца крута ў вузлы. Здавалася б, на фоне Чарнобыля ўжо траціцца вастрыня несупыннага атакавання бюракратычна-чыноўніцкага «клана» з яго невымернай шкодай, нанесенай нацыянальнай культуры. «Чарнобыльскія» рэактары стаяць у многіх атамна-энергетычных гнёздах па краіне. Значыць, кроўны клопат — думаць аб людзях, што ў паласе пагрозы. Але ці не звязаны гэты клопат *з праблемай выхавання* нацыянальна ўсвядомленага Гаспадара? Такога Гаспадара, які ні за што, ні пры якіх умовах і *напорыстых націсках не дапусціў бы* безгалоўя. Гаспадара бездухоўнага, з адбітай гістарычнай памяццю быць не павінна *на роднай зямлі*. А сапраўдны Гаспадар не можа нарадзіцца без кроўна-нацыянальнага самаўсведамлення, якое прышчапіць можа толькі родная культура, родная мова. Выходзіць, Чарнобыль і сітуацыя з роднай мовай — рэчы ўзаемазалежныя.

Мне імпануюць тыя вобразы і матывы кніжкі Панчанкі, якія пацвярджаюць мае ўласныя перакананні. Паэт, далучаючы мяне да супольнага трывожнага роздуму, далучае таксама і да свайго няўступнага і зацятага «паядынку». У вершы пад такой назвай ёсць яшчэ адзін знішчальны закід — наконт «спецкарыта», ад якога не проста адарваць прывілеяваную чыноўніцкую брацію. Непрымірымасць аўтара — гэта па многіх лініях паядынак з тым *закаснелым асяроддзем, што* гадуе і ставіць на адказныя і звышадказныя пасады не-гаспадара. Таталітарна-камандныя *спосабы* кіравання ствараюць па-ранейшаму ўмовы для іерархічнага прыстасавальніцтва, калі кожны на прыступку бюракратычнай лесвіцы з ліслівай паслухмянасцю пазірае ўверх на «вышэйстаячага», затое «гаркае» — уніз. У выніку:

**Якая там за мову барацьба,**
**Калі расце патомак партызана**
**З душою баязліўца і раба.**

З поўнай загрузкай працуюць усё яшчэ не «гадавальнікі» ўсвядомленых Гаспадароў, якія б адчувалі ў сабе кроўную адказнасць за крытычныя сітуацыі ў эканоміцы, сацыяльным жыцці, культуры, а «гадавальнікі» зусім іншага прызначэння — для вырошчвання бліскучых «складальнікаў прамоў», розных «Цыцэронаў», дэмагогаў, якіх — не крані («супрацiўляюцца адчаянна і за крэсла распачнуць смяротны бой»). Няўжо — безвыходнасць? Няўжо надзея, вера паэта і сапраўды ў праявах роспачы? Логіка ўзнятых, безнадзейна запушчаных у вырашэнні праблем, логіка вобразаў як бы немінуча хіліць у гэты беспрасветны бок — да *«Развітання»*. Некаторымі, наколькі прыходзілася чуць, так і ўспрымаецца гэты твор — як адчай, песімізм, бяз'вер'е. «Наш *цягнік адышоў...* Гэта наша настала змярканне, Гэта з мовай маёй, Гэта з песняй маёй «Развітанне» — такой балючай спавядальнасці ў нашай паэзіі яшчэ не было. Навошта тады і «сціло» трымаць у руцэ? Гэтую горкую кнігу выдаваць? Як роспачна-цяжкі помнік на ростанях?

Калі прыгледзецца да ўнутранага счаплення вершаў, то з'явішча тут бачыцца куды больш складаным. Невыпадкова ж, мусіць, у «Гістарычным верлібры» паэт прыгадвае словы Дастаеўскага: «Без гэтай веры ў сябе не ўстаяў бы, напрыклад, на працягу вякоў беларускі народ і не выратаваў бы сябе ніколі». Тэматычна праблем веры кранаюцца яшчэ два вершы — «Валдашы» і «Мае багі». Што датычыць апаэтызаванага зместу верша «Валдашы», то ёсць у мяне трохі нязгоды з аўтарам. Ратуючыся ад націску акаталічвання (на справе — той жа асіміляцыі), некаторыя нашы продкі вымушаны былі падацца ў Масковію, у Расію, на Валдай, напрыклад. Але ж, у прынцыпе, такія вось «ад'езджыя», «адыходжыя» —ці ратавалі сябе ад згубнага працэсу асіміляцыі? Зрэшты, не меней іх перакачоўвала і ў адваротным кірунку. Хоць па даўняй прызвычаенасці гісторыкі і паэты схільны заўважаць толькі адзін выратавальны кірунак: «Да братоў па богу — у Расею, каб ад д'ябла ратаваць дзяцей».

**(Працяг на стар. 6—7).**

## Крытыка, бібліяграфія

Таіса ГРАМАДЧАНКА

# Спасцігаць таемны сэнс жыцця

**А. Наварыч. Рабкова ноч. Аповесці і апавяданні. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1988. Першая кніга празаіка.**

У АПОВЕСЦЯХ і апавяданнях Алеся Наварыча сапраўды ўсё такое ж блізкае і роднае, як папараць, мятлік на вокладцы яго кнігі. Мастак Т. Малышава пастаралася надаць вонкавую адметнасць зборніку і ўвесці чытача ў мастацкі свет, створаны маладым празаікам. Глядзіш-глядзіш на тоненькую сцяблінку, на лапкі папаратніку, быццам выхапленыя сонечным промнем з зялёна-бурага паўзмроку правечнага гушчару, і не стамляецца вока. Як не стамляецца яно на старонках твораў, дзе ўжо, дзякуючы слову, ажываюць карціны прыроды.

**Прырода ў А. Наварыча магутная, буйная, шматколерная, напоўненая пахамі, гукамі, святлом і прасторай. Так, так, пры чытанні твораў не пакідае адчуванне шырыні і бяскрайнасці жыцця. «Мільён пралесак малочнай пенай заліло паўвыспу, абліло наўсцяж пагоркі... А там, сярод мноства вадзяных веснавых траў, што былі ўсе заглушаны буйна квітнеючай лотаццю, там коцікі бералозу — жоўтай лазы, густа абсыпалі прагрэтую сонцам ваду, там сярод згрызенага ўшчэнт капытніку і сіту, цягалі вярбовае голле бабры...» Гэта вясна ці, дакладней, невялікі «кавалачак», фрагмент вясны з аповесці «Забівец». А вось світанак пасля навальнічнай ночы: «Ранняя пташка цвыркнула раз — другі, навакол усталяваўся блакітнага тону паўзмрок. Рабілася халадней і халадней. Са свежасцю і холадам прыходзілі яшчэ большая чысціня і празрыстасць. А чым больш паветра станавілася чысцейшым, тым яснеў свет. Гэтае разлітае святло працінала ўсё, прасвечвала кусты, грудковыя сенажаці прасвятліліся, выстаўляючы грудастыя стажэчкі. Світала, далёка, бясконца далёка стала відаць...» (апавяданне «Рабкова ноч»). Цытаваць можна доўга, бо не трэба вышукваць у зборніку яркія выразныя мясціны, што аўтару ўдаліся найлепш. Тут нельга не пагадзіцца з аўтарам прадмовы да кнігі «Рабкова ноч», А. Карпюком, што талент пісьменніка «прабіваецца ва ўсім, пра што б ён ні пісаў, — пра вайну і пра каханне, казуль і ваўкоў, навальніцы і дрэвы, травінкі і кветкі».**

Колькі за апошнія дзесяцігоддзі ў нашай прозе з'явілася дзядоў і бабуль. А вось жа стары паляшук з апавядання «Масток у будучыню» не здаецца «вядомым знаёмцам», ён з жыцця, у якім не бывае адэкватных паўтарэнняў. Гэты «філосаф у пасталах», як ахрысціў яго пра сябе галоўны герой апавядання, жывы і натуральны ва ўсім: ад асаблівых касцяных гузікаў на шыракаватым з ваеннага сукна фрэнчы да энергічных рухаў і паляшуцкай гаворкі: «...У мынэ во! — стары рэзка закасаў рукаў аж па локаць і выставіў на агляд сваю руку, — гэта Кенісберг. А гэто — Бырлін, — і стары патупаў сваімі пасталамі, — думаеш, шчо вжэ я така тэмра і болото, шчо в постолах ходю, га? Навэт у самых лёгкіх суконках і то тры дні походю, і косты ламае. А тут во! — стары задраў угару свой пастол і энергічна памахаў ім, — нага дыхае. Вот вы, вучоные, подумаетэ, подумаетэ да і самы скоро пообуваетэса...».

Звычайна, малады аўтар радуе ўжо ў тым выпадку, калі можа «жывапісаць словам» (Максім Горкі) карціны і з'явы прыроды, прадметы, рэчы, што спадарожнічаюць чалавеку, і, вядома, самога чалавека, яго знешнасць, характар, паводзіны. Наяўнасць гэтага першаэлементу пісьменніцкага таленту дае падставы спадзявацца, што іншае з'явіцца, набудзецца з жыццёвым вопытам, з карпатлівай працай. Праўда, так бывае не заўсёды. Сярод пісьменнікаў, сталых і маладых, нямала рэгістратараў жыцця, здольных напісаць няхай і прывабную, але ўсё адну копію. Радзей сустракаюцца пісьменнікі іншага тыпу, якія, як адзначаў у свой час М. Дабралюбаў, «не толькі дакладна ўзнаўляюць з'явы жыцця, але якім зразумелы больш ці менш і агульны, таемны сэнс яго».

У творах А. Наварыча прываблівае якраз імкненне да думкі. Безумоўна, звяртаючыся да нейкіх падзей і сітуацый, да чалавечых характараў і канфліктаў, кожны пісьменнік хоча сказаць штосьці і пра жыццё ўвогуле. Але як часта ў творах замест асэнсавання з'яўляецца павучанне і дыдактыка. А. Наварыч пазбягае як павучання, так і прамалінейных, адназначных ацэнак, умее бачыць няпростасць жыцця. Так, лёс у асобе старшыні калгаса, якому край патрэбна была даярка, звёў маладую жанчыну і нямоглага ўдаўца (апавяданне «Лявон і Мушка»). І жывуць яны многія гады нібыта муж і жонка, без сварак і ўзаемных папрокаў. Аднак жыццё пад адным дахам не зблізіла Лявона і Мушку, яны, па сутнасці, так і засталіся выпадковымі спадарожнікамі, якім наканавана разам прайсці нейкую частку шляху. Побач з удзячнасцю адзін да другога героі носяць у душы крыўду. Безумоўна, Лявон у большай ступені абдзелены жыццём. Горкія, скрушныя думкі прыходзяць да яго: «...Як колькі гадоў перайшлі жыць у яе больш новую хату, якую ён ашаляваў, перакрыў шыферам, а сваю парэзаў на дровы — пачаў адчуваць, пахаладнелі гэтыя рукі, нібы ўчарствелі. Ці гэта так яму, старому, здавалася? Не, не здавалася...» Толькі і жанчына не малюецца няўдзячнай істотай, бяздушнай крыўдзіцелькай. Іншая справа, што Лявон больш прывабны і прыгожы са сваёй памяркоўнай, спакойнай чалавечнасцю, са сваёй глыбока схаванай бядой.

Пісьменнік актыўна сцвярджае прыгажосць — чалавечай душы, прыроды, увогуле жыцця. Аднак у яго творах прыгажосць існуе на свеце побач з пачварнасцю, жорсткасцю, злом. І не проста існуе, яна, крохкая і амаль безабаронная, у вечным змаганні з імі, часам вельмі драматычным. Толькі што юнак быў перапоўнены любоўю да ўсяго і ўсіх, зачараваны цішынёй летняй ночы, востра адчуваў «шчасце проста жыць. Проста існаваць і сузіраць гармонію свету» (апавяданне «Сузіранне начной поўні»). І вось у адно імгненне гармонія разбурана, у сэрцы — нянавісць. Гэта, паказвае аўтар, не звычайная змена, перапад настрою. Душа героя моцна паранена ўбачаным: маці, родны, дарагі чалавек, крадком пацягвае «вясёлае пітво».

Патрабавальна ставіцца пісьменнік да чалавека, аднак няма ў творах пагарды да яго, якім бы ён ні быў, як бы ні «дзічэў», не ўмеючы разумна распарадзіцца сваім адзіным жыццём. Ёсць боль за чалавека (што захацелася б асабліва падкрэсліць, бо апошнім часам гэтага неяк прыкметна паменела ў літаратуры). А. Наварыч бачыць не віну, бяду чалавечую, народжаную не асабістымі схільнасцямі, абставінамі, а прычынамі грамадскімі, сацыяльнымі, таму ён здолеў сказаць у «Сузіранні начной поўні» больш, чым асудзіць п'яніц і п'янства.

«Таемны сэнс» жыцця, які адкрываецца ў апавяданнях А. Наварыча, — гэта, бадай, перададзеная складанасць свету і чалавечых узаемаадносін. А яшчэ дабро, якое супрацьстаіць злу і не дапускае самаразбурэння чалавека. Якое прымушае азірнуцца, каб мог чалавек разгледзець уласную недасканаласць, неразумнасць, самаўпэўненасць, пакутаваць і ачышчацца. Праўда, апошняе напрамую выяўляецца, бадай, толькі ў апавяданні «Гепардава лета», герой якога з часам зразумеў колішні свой эгаізм і перажывае праз гэта. У іншых творах такі свядомы самааналіз у герояў адсутнічае, ачышчэнне адбываецца больш апасродкаваным і складаным шляхам. Што пісьменнік здолеў, на маю думку, вельмі тонка і псіхалагічна дакладна перадаць у апавяданнях «Пастрыжаны» і «Рабкова ноч».

**Пэўна, пад пяром нейкага іншага аўтара гісторыя, расказаная ў «Гепардавым леце», засталася б толькі гісторыяй запозненага кахання. Наварыч жа замахнуўся на большае. Ён перавёў ідэю твора са сферы псіхалагічнай, жыццёва-бытавой у сферу філасофскую. Віна перад Зоськай адкрыла герою, што ідэал, мара не могуць быць адарванымі, адасобленымі ад жыцця, ад канкрэтнага чалавека. Яны павінны клікаць увысь, наперад, але месца гэтых «увысь» і «наперад» на зямлі, а не ў прыдуманым свеце. Інакш — мара дзеля мары, зрушанае разуменне жыццёвых каштоўнасцей. Чаму ў героя такое дзіўнае пачуццё да дзяўчыны? Ды таму, што тое, чым ён жыў, што існавала вакол, яму, асепленаму, загіпнатызаванаму велічнымі марамі, здавалася нецікавым, нічога невартым. «Тысячы разоў прыходзіў летам на танцы, каб толькі глянуць адным вокам, і бачыў, што Зоська нязменна сядзіць у тым жа самым кутку, нібы некага чакаючы, а калі верыць майму шпегу Галі — дык мяне. І кожны раз думалася — няўжо трэба дасягаць нейкай выключнай сваёй мэты, каб дасягнуць Зоські. Яна ж тут побач, заўсёды чакае».**

Упэўнена адчувае сябе малады празаік і ў жанры аповесці. Няма ў творах «Цкаванне вялікага звера» і «Забівец» амаль абавязковай для пачаткоўца расцягнутасці, калі малюецца карціна за карцінай, цягнецца дыялог за дыялогам, а аўтар не можа спыніцца, змяніць план ці ракурс гледжання. Няма і скорагаворкі, калі нейкі перыяд жыцця героя пераказваецца, а не паказваецца. Складаная па архітэктуры мастацкая пабудова, якой, безумоўна, у параўнанні з апавяданнем з'яўляецца аповесць, аказалася для А. Наварыча па плячы. І ўсё ж найперш радуе не гэта. У творах жыве, б'ецца неспакойная думка аўтара пра сэнс жыцця, пра ўзаемаадносіны чалавека з чалавекам і з усім белым светам, раскрываецца агульнацікавая, значная ідэя.

Герой аповесці «Цкаванне вялікага звера», Міхал Мацюшок, марыць зрабіць нешта такое, што адным махам ашчаслівіць чалавецтва. Што канкрэтна, хлопец не ведае, аднак упэўнены некалі на яго нойдзе геніяльнае прасвятленне, а пакуль трэба рыхтавацца да гэтага. Ён імкнецца сцвердзіць перад усімі ўласную выключнасць, даказаць, што яму ўсё можна. Толькі той, хто абсалютна свабодны і незалежны ад людзей, законаў, пачуццяў, лічыць юнак, варты вялікай мэты. Міхалава «тэорыя» правяраецца і абвяргаецца ў творы жахлівым лёсам Лёўкі, які паспрабаваў шукаць волю па-за людскім гуртам.

**У аповесці сапраўды добра даведзена, на якія пакуты, на якое страшнае адзіноцтва штурхае сябе чалавек, адасабляючыся ад сабе падобных. Ра-**

# МАЛАНКА НА РОСТАНЯХ

**(Пачатак на стар. 5).**

Па адзін бок — ледзь не з распасцёртымі крыламі анёлы, па другі — д'яблы, вось як. Сэнс верша, праўда, шырэй. Тут размова, можа, не столькі пра канкрэтны выпадак (уцёкі на Валдай), колькі пра саму веру — якім жа чынам захаваць роднаму люду духоўную красу, без прымусу і пагвалчэння? У гэтым сэнсе паэт, паводле яго слоў, «быў усё жыццё богашукальнікам». Яго багі — «родны край, і зоркі ў небе, і пах чабору і травы, і чысты вецер з возера Палік», а яшчэ, вядома ж, «сумленне, праца, справядлівасць і паэзія» («Мае багі»). Панчанкава вера ў іх, высакародных гэтых багоў, даўняя і нязменная. Але чаму такія цярністакалдобістыя шляхі «богашукальніцтва?»

Тут, мусіць, да месца будзе нагадаць мудрага нашага Францішка Скарыну, які любіў паўтараць евангельскую ісціну: «Вера без справы мёртвая». Вера, не падмацаваная спраўджаннем, сапраўды ілюзорная. Гэта прывід, за які дэмагагічна трымаецца бюракратычная артадаксія. Яна не дужа пераборлівая ў сродках — сродках, якія кампраметуюць веру перад цэлым светам, чалавецтвам. Чаго ж варта тая форма спраўджання веры, тая «справа», якая ў выніку ўсталёўвае «прыгоннае права бюракратызму» («Як гінуць паэты»), адкідвае, па сутнасці, краіну назад, да мадэрнізаванага прыгону.

Вось тут і выкрасаецца самае сутнаснае ў паядынку-сутыкненні — на апошнім зломе маланкі. Калі душа паэта знемагае ад прадчування малаверагоднасці рэальных поспехаў. Устрывожанасць на мяжы роспачы нарастае, яна — ад горкага бачання фактаў, ад усяго, што дзеецца ў самой рэчаіснасці. Сапраўды, такое не можа не кідацца ў вочы: «На бронзавых конях усюды сядзяць палкаводцы: то пакарэнне Каўказа, то высяленне Каўказа...» Што ж, як кажа аўтар верша: «Вялікая дзяржава — вялікая ідэя». Толькі якім чынам падмацоўваюць вялікую ідэю бронзавыя коннікі? Мы не можам не далучыцца да ўзрушэння паэта, які бачыць, як яго вялікая вера, вялікая ідэя ў галовах удубелага чыноўніцтва безнадзейна гіпертрафіруецца, набывае вось жа якія пачварныя формы:

**Магутныя бюракраты**
**Уласным сцверджанням рады:**
**«Гаворыш па-руску —**
**Інтэрнацыяналіст;**
**Гаворыш па-беларуску —**
**Нацыяналіст...»**

Ім, хто галаслоўна залічае сябе ў прэстыжны «інтэрнацыяналізм», зусім няўцям, што ў гэтага слова два складаемыя («інтэр»+«нацыяналізм») што голага, безаблічнага «інтэр» не бывае і быць не можа ў прыродзе чалавечага грамадства, і бязродныя апалагеты яго — гэта нішто іншае, як той жа «нацыяналізм» наадварот, шавінізм. Я, уласна, прыхільнік разумення, што да інтэрнацыянальнага найбольш арганічна і натуральна ўзыходзіць праз нацыянальнае. Аднак правамерны і сустрэчны кірунак-шлях — прызнаць прыярытэт агульначалавечага, але абавязкова і не інакш (як першаўмова!) выходзіць на жыццядайны грунт нацыянальнага. Дык як тады, скажыце, захаваць унутраную раўнавагу, калі так часта-густа напатыкаешся на непрабудных «глушцоў» бюракратыі, на спекулятыўных «псеўдаасветнікаў», якія «Пасля трыццаць сёмага мову змянілі» і зараз сваю абывацельскую спекуляцыю чыняць на самым свяшчэнна дарагім. Як у свой час запалохалі і заняверылі іх, так цяпер запалохваюць і сеюць нявер'е яны, асабліва сярод бацькоў, што маюць сваіх школьнят. А тыя ў сваю чаргу, не бачачы рэальнай перспектывы ў беларускім навучанні, перадаюць свае горкія спасціжэнні і ўрокі дзецям. Таму адваротны працэс, які ўсё ж распачаўся дзякуючы ахвярнаму падзвіжніцтву-рушэнству і пэўнаму разуменню кіраўнічых колаў, пакуль мае чарапашую хаду («Недзе ёсць беларуская школа, недзе ёсць беларускі ў нас клас...»).

Так, цяжка чытаць шчымлівыя радкі паэтавай скрухі і роспачы («Пастаю я самотны каля полацкай белай Сафіі... А вочы мае ўжо не плачуць — сухія-сухія: не чуваць мне з былога ні грому, ні звону...»). А ўсё ж — так і не так: чуваць яны, гэтыя громы і звон гістарычнай Беларушчыны! Паэт чуе іх, яны ў запамінальных вобразах праходзяць перад нашымі вачыма — часам контурна, панарамна, часам і з вымярэннем углыб.

Трэба сказаць, што вышыня эстэтычнага ўзроўню паэзіі Панчанкі даўно сцверджана і надзейна замацавана, а таму многія творы міжволі прымяраеш да тых высокіх адзнак набытага ўзроўню. І тады заўважаеш, што дзе-нідзе эмацыянальная тэмпераментнасць, публіцыстычны напал новай кніжкі паэта церпіць як бы паніжэнне (у маім успрыманні), траціць сваю дзейнасць з прычыны недастатковасці эстэтычнага пачатку. Урываецца, скажам, неадпаведнасць прыпевачнай, трохі аблегчанай формы да прадмету гаворкі, зместу (асобныя строфы «Тармажэння», «Оды Талачыну» і інш.). З паўнагуч-

## Паэзія

### Юрка ГОЛУБ



### Птушкі Беларусі

Яны прыносяць у дзюбах,
на хвастах
і ў кіпцях
мноства прыкмет размаітых,
па якіх адзначаецца
беспамылкова,
дзе шчэбету шмат
на планёрках лясных,
дзе высушылі балота,
і жабы павыміралі,
як маманты,
дзе страляніна ўсчалася
датэрмінова,
а дзе назначаны
святочны кірмаш
перад зборам у вырай.
І нават самы злавесны
крумкач,
і той
прынёс вестку:
маўляў, няблага яму
без занятку.

### Унук і песня

Наракала бабка зычліва,
паўзуна-унука
люляючы,
чаму ён цяжкі на гутарку.
З часам
ад сурокаў у прыцемку
загаворвала.
Не давала
ў калодзеж пляваць,
каб потым вады
змог напіцца.
Як капейку і хлеб шанаваць,
павучала.
А ўнук не вытрываў
і зазлаваў
неўспадзеўкі.
І зараз
песня журыцца
зэльвенская:
«Паехаў, паехаў,
Нідзе не відаці.
На бітым гасцінцы
Два слядочкі знаці».

### Сынкавіцкая царква

Развалілі не так даўно
далакопы
рыдлёўкамі ўспатнелымі
курган на вятрах,
потым архіў
з пяшчотным пергаментам
літар.
Вішня прызнанняў
маіх закаханых
пад пагрозаю перасадкі.
Але не адужаў яшчэ
ашчэраны часу бульдозер
падкапацца пад мур
Сынкавіцкай царквы.

## Проза






АПАВЯДАННЕ

З ПАЧАТКУ снежня пайшоў на пенсію намеснік загадчыка аддзела Макарэвіч. Дырэктар навукова-вытворчага аб'яднання пазваніў загадчыку аддзела Васілю Пятровічу Русаку:

— Тэрміну даю два тыдні. Калі да канца года вакансію не закрыеш, скароцім штатную адзінку. І яшчэ... Наверх нікому не звані — падсунуць ката ў мяшку.

Васіль Пятровіч папрасіў асабістыя справы работнікаў. Нельга сказаць, што ён дрэнна ведаў людзей: штодня з кожным бачыўся не па аднаму разу. Яны заходзілі з паперамі ці проста па даручэнні. Толькі і паперы, і нават размовы былі падобныя адна на адну. Здавалася, і самі людзі былі аднолькавыя. Каго ж выбраць, каму аддаць перавагу? Захацелася проста пачытаць біяграфіі, паглядзець фотакарткі... Ен спадзяваўся адшукаць, заўважыць у іх нешта такое, што дапамагло б яму зрабіць выбар... На жаль, і службовыя характарыстыкі, і нават біяграфіі, здавалася, былі напісаны адной рукой. Толькі адна аўтабіяграфія, галоўнага спецыяліста Дзірваеда, прыцягнула ўвагу. Дзірваед аказаўся земляком, аб чым Васіль Пятровіч не ведаў. «Няўжо не было выпадку сказаць пра гэта?» — з нейкай крыўдай падумаў ён. Па-чалавечы шчыра была напісана аўтабіяграфія Дзірваеда. Ну хто яго прымушаў прызнацца, што ў вайну ён разам з сям'ёй заставаўся ў акупацыі, а сястра яго была вывезена ў Германію? Русак паклаў асабістую справу Дзірваеда ў стол: «Заўтра ж і пагавару...»

«А што гэта маўчыць партбюро?», — успомніў раптам Васіль Пятровіч... Партыйны сакратар, маёр-адстаўнік, з'явіўся з кіпай папер і спачатку папрасіў даць распараджэнне надрукаваць пратакол апошняга сходу. Перадаўшы паперы сакратарцы, ён спыніўся перад сталом з роўна апушчанымі рукамі і запытальна паглядзеў у вочы загадчыку.

— Сядайце, — запрасіў Русак. — Што вы думаеце наконт кандыдатуры майго намесніка?

Сакратар ледзь прыкметна схіліў галаву набок: відаць, пытанне было нечаканым.

— Прабачце, у якім сэнсе? — асцярожна ўдакладніў ён. — Калі вы прапануеце пасаду мне, то...

Заклапочана зморшчыўшы лоб, сакратар нешта доўга прыкідваў у думках.

— Разумееце, аклад залішні. Частку пенсіі давядзецца вярнуць. Так што ніякага сэнсу. Мне і гэтага хопіць... А сюды маладзейшага трэба, з перспектывай...

— Можа, ёсць хто на прыкмеце?

— Ёсць. Сцяпан Кірыльчык. Малады, са спецадукацыяй. Кемлівы, паслухмяны, кандыдат у члены. Я даў яму рэкамендацыю. Было б добра даць яму цяпер пасаду. Райком рэкамендуе правесці сход па рабоце з маладымі кадрамі. Які прыклад для даклада! І райком бы заўважыў. Падумайце, Васіль Пятровіч.

— Вельмі ўжо ваш Кірыльчык бесхарактарны, неактыўны... Дарэчы, хто на гэту пасаду стаіць у рэзерве? Мы ж, здаецца, спіс зацвярджалі...

— Была такая папера... Калі не памыляюся, у чарзе на ваша месца стаяў Дзірваед. А вось хто на месца Макарэвіча — не помню.

— Усё ж такі Дзірваед... — нібы сам сабе напомніў Русак і больш рашуча дадаў: — З яго і трэба пачаць, па спісу.

...Русак сабраўся паклікаць Дзірваеда. Высветлілася, што той у камандзіроўцы. Нельга цягнуць, падумаў Васіль Пятровіч. Як бы не падсунулі «зязюльку». Дэмакратыя дэмакратыяй... Як зазначыў нехта на сходзе, раней быў дэмакратычны цэнтралізм, а цяпер — цэнтралізаваная дэмакратыя. Заблытацца можна... Нядаўна пазваніў знаёмы дырэктар фабрыкі:

— Слухай, — кажа, — вазьмі да сябе чалавека. Адзін дацэнт просіць.

— А пры чым тут дацэнт?

— Як пры чым? Ён навуковы кіраўнік майго сына... Я сам узяў бы таго чалавека, ды ён твайго профілю. Калі што, у даўгу не застанемся. І ў мяне вакансія ёсць. Твая колькі каштуе? Сто дзевяноста? А мая за дзвесце пацягне. Вось бачыш: выгада на тваім баку. Ды ты не сумнявайся — справіцца! Разумны хлапец — дацэнт жа рэкамендуе. І не бойся эксперыменту. Цяпер наконт абмену — поўная свабода: ты мне, я табе, абы карысць, зразумеў?

Але не ўсе шукальнікі пасады былі з «пазваночных». Чарговы з іх прыйшоў сам і добра напалохаў Васіля Пятровіча.

— Я Вальханскі, з наркантролю. Памятаеце?

«Гэтага не хапала! — з трывогай падумаў Русак. — Што ён тут яшчэ накапаў?»

— Здаецца, нас не так даўно правяралі...

— Я не з тым, — адразу супакоіў Вальханскі. — Я — па асабістай справе... Хачу да вас на работу, толькі гэта — сакрэт!

— Канечне, канечне, — пагадзіўся Русак, — але справа ў нас спецыфічная...

— Васіль Пятровіч, я ж тры гады вас курырую! Так што ведаю, чым тут займаецеся...

— Таму і вам сюды хочацца?

— Вы не так зразумелі. Я даўно жывой справы хачу. Але калі што — і пісаць умею.

Вальханскі дастаў з «дыпламата» папку і паклаў на стол.

— Пратаколы нашых пасяджэнняў. Нясу здаваць у гарадскі камітэт. Большасць даведак і пастаноў напісана мной. Магу да канца дня пакінуць...

Русак адмоўна крутнуў галавой: не, пакідаць не трэба. Ён іх добра ведаў і так. Яго не раз выклікалі на камітэт. Неяк на пасяджэнні Васіль Пятровіч выказаў заўвагі па зместу даведкі. Што тут пачалося! Камітэтчыкі заёрзалі ў крэслах, а старшыня аж узвіўся ад абурэння:

— Бач, які горды! Пакрыўдзілі праўдалюбца. Мо прабачэння папросім?

Дазволіўшы выпусціць пару раз'юшаным членам камітэта, старшыня падвёў вынік:

— Таварыш паказаў нязрэласць. Замест прызнання памылак ён імкнецца пазбегнуць адказнасці. Але гэта не ўдасца!

Васілю Пятровічу аб'явілі строгую вымову і загадалі ўнесці ў касу палову аклада. Не былі арыгінальнымі і іншыя пастановы: вымова, аклад, вымова... Ды і самі парушэнні быццам перапісваў нехта з адной пастановы ў другую. Нібы ніякіх іншых камітэтчыкі зроду не ведалі і шукаць не ўмелі. Відаць, меў рацыю адзін начальнік, якога камітэтчыкі знялі з работы.

— Ну, дажыліся, — абураўся ён. — Ледзь ад міліцэйскай навалы збавіліся, дык во новую нажылі. Орган пакарання, а не кантролю — вось што гэта! І пікнуць не даюць. Не прызнаеш віну — яшчэ больш «накруцяць». Дык што гэта: варыянт трыццаць сёмага?

Русак быў супраць гэтага параўнання, бо тады плацілі не пасадамі, не акладамі, а катаргай, жыццямі. Яна, тая бяда, не абмінула і іх сям'ю. Не ўратавала нават тое, што бацька іх служыў у органах НКУС. Пра сваю работу, праўда, ён нічога не расказваў. Ім жа, дзецям, вельмі ўжо хацелася пачуць, як іх тата вылоўліваў шпіёнаў, бандытаў і іншых ворагаў народа. А іх было надта многа. Нават сярод суседзяў, знаёмых, радні. Пра варожыя хітрыкі, каварства тады шмат пісалі, і Васіль міжволі пачаў пабойвацца тых, хто жыў побач. Адно здзіўляла: калі столькі шпіёнаў, бандытаў развялося, то чаму не было ніякіх стрэлаў, пагонь? Чаму яны здаваліся без бою? У фільмах ворагі адстрэльваліся, нажы ў ход пускалі. Там гінулі людзі. А ў жыцці ворагі народа былі бяззубыя... Васіль выказаў гэту думку бацьку. Той не даў дагаварыць: прыкрыў яму рот рукой і напружаным, нібы прыдушаным голасам загадаў ніколі, ні з кім не размаўляць пра гэта. Сам жа стаў нейкі ціхі, маўклівы. Не выносіў крыку. Аднойчы пасля звычайнай дзіцячай сваркі папрасіў:

— Ніколі больш пры мне не крычыце...

І маці, і дзеці бачылі, што бацьку нялёгка. Можа, ён не ўмеў гэтак хутка, як іншыя, выкрываць тых шпіёнаў, бандытаў? Яшчэ нядаўна з Васілём хацелі сябраваць ледзь не ўсе хлапчукі двара. Васіль здагадваўся, што сваім аўтарытэтам абавязаны бацьку. Таварышы не раз прасілі расказаць, як ён ловіць бандытаў. Васіль пачаў чытаць прыгодніцкія кнігі і расказваць узятыя з іх гісторыі. Іншы раз яго «лавілі» на прачытаным. Васіль не губляўся і «па сакрэту» гаварыў усім, што на самай справе гісторыя адбылася з бацькам, а пісьменнік запісаў яе... Нейкі час суседзі не цураліся бацькі, наадварот, часта клікалі да сябе ў госці. Усё пачало мяняцца пасля таго, як прапала некалькі суседзяў. Так, прапала — бо як пра гэта скажаш інакш, калі яшчэ ўчора ўсе бачылі чалавека, а сёння яго ўжо няма. Але ўсе здагадваліся, куды ён «прапаў», па заплаканых вачах яго жонкі і прыціхлых дзецях. Васіль адчуў, што ў адносінах да іх сям'і з боку суседзяў, яго таварышаў пачала з'яўляцца нейкая стрыманасць, асцярожнасць. Усё часцей хлапчукі не бралі яго ў свае гульні, змаўкалі пры яго з'яўленні...

Ён пачаў пра нешта здагадвацца, калі сусед, дзядзька Сцяпан, іх нейкая радня з боку маці, запрасіў бацькоў на свой пяцідзесяцігадовы юбілей. Разам з імі пайшоў Васіль... У той раз нешта не было агульнай шумнай гаманы, якая папярэднічала кож-

### Ранішнік у дзіцячым садзе

Ніколі не бачыў
столькі
сур'ёзных дзяцей
за вясёлым заняткам —
спаборніцтвам.
Ніколі не назіраў
такога каскаду
эмоцый.
А дома
сеў пачытаць даўнія мемуары.
І раптам дапетрыў:
іх трэба пісаць
пасля ранішніку
ў дзіцячым садзе.

### Раніца на балконе гарадской ускраіны

Зялёналістая вёска
ўрываецца
на балкон незачынены
з ночы.
Шолахам саду
абмытага,
подыхам празрыстага дыму
і лопатам рухавічка.
А над усім верхаводам —
певень —
на горла бярэ
нахабна.
Ажно хлапчуку на балконе
няўсцерп захацелася
кукарэкнуць.

### Выхадны ў даяркі

У натружаным сне
зарыкалі каровы.
...адна...
...а потым другая...
і ўсчаліся каровіны
перазовы.
І жанчына раптоўна
прачнулася.
І пачула ў роспачы,
што ўжо сонца
бразгае
ранішнім рукамыйнікам.

### Пілуем дровы

Будуць кроны
гусці і трашчаць
за паліванаю кафляй,
за жалезнаю засаўкай.
Так гудзе завіруха
у выстылым садзе
падвечар.
Музыка падарожнага,
маленства
і ўспаміну.
Будзе цяпло атуляць
вопратку млявую,
валёнкі ў куце
і шыбы,
замураваныя лёдам.
А там, як звычайна,
над кніжкаю стомленай
неўпрыкмет
і на сон пацягнула...
...Пад сонцам
гарачым і смольным
з бацькам пілуем дровы.

*Ганарар за вершы аўтар пералічвае на рахунак Беларускага фонду культуры на помнік Кастусю Каліноўскаму ў Гродне.*

наму застоллю. Цікаўныя суседзі не абступалі, як раней, з пачціваcцю бацьку, а толькі зрэдку кідалі ў яго бок трывожныя, запытальныя позіркі. Калі Сцяпан запрасіў гасцей да стала, усе зноў паглядзелі на бацьку, чакаючы, куды ён сядзе. Дзядзька першым сеў на чале стала і запрасіў да сябе бацьку з маці. Тут, зусім нечакана, да бацькі смела падсеў лётчык з ордэнскімі планкамі на гімнасцёрцы і кабурой на поясе. Васіль ведаў, што гэта Ігар — пляменнік дзядзькі, які прыехаў на пабыўку. Ён быў каржакаваты, жыццярадасны і моцны чалавек. За ім дружна паселі астатнія госці. Пасля некалькіх чарак усе разгаварыліся. На гэты раз агульнай увагай завалодаў Ігар. Яго расказы захапілі і дзяцей, і дарослых. Дзядзька Сцяпан прапанаваў у гонар яго тост. Калі падвыпілі, Ігар неяк з-пад ілба пачаў пагладаць на бацьку. Расчырванеўшыся, ён расшпіліў гузікі на каўнерыку гімнасцёркі, закурыў цыгарэту і, прыжмурыўшы ад дыму вочы, звярнуўся да Русака:

— Ты глядзі, не крыўдзі майго дзядзьку. Ён мне за бацьку і маці. Адзін застаўся, зразумеў? — Ігар нават скрыгатнуў зубамі. — Пасмей толькі кранущь хоць пальцам. З-пад зямлі дастану. Мне зверху бачна ўсё...

Русак адказаў Ігару нейкім жартам. Відаць, адказаў няўдала: маўляў, паглядзім на паводзіны дзядзькі...

І тут, не сказаўшы ні слова, Ігар моўчкі апусціў руку за спіну і ... раптам выхапіў пісталет.

— Ах, ты...

Грымнуў стрэл. Васіль, які назіраў за ўсімі, седзячы на канапе, паспеў заўважыць, як дзядзька Сцяпан імгненна схапіў пляменніка за руку. Ігар стрэліў угору. На нейкі момант усе анямелі. Затым мужчыны паўскоквалі з месц, а жанчыны палезлі пад стол. Дзядзька Сцяпан адабраў у пляменніка пісталет і моцна абхапіў яго ззаду за плечы. Ігар не вырываўся, толькі цадзіў праз сцятыя зубы:

— Ён паглядзіць... Не нагледзеўся шчэ. А я пабачыў столькі, што сыты па горла. Значыць, пакуль мы там, на захадзе, ваявалі, вы тут зноў за сваё... Крыві вам мала?

Людзі хуценька, цішком пачалі разыходзіцца. Русак не паспеў нават выскачыць з-за стала, толькі прыўзняўся пасля стрэлу і гэтак застыў у напружанай, скамянелай позе, зрэдку пазіраючы на Ігара і ні слова не гаворачы яму ў адказ. Збялелы, дзядзька Сцяпан сілай усадзіў пляменніка зноў за стол. Дрыжачымі губамі ён прасіў у бацькі Васіля прабачэння, але Ігар ніяк не мог супакоіцца.

— Ні адзін народ не вытрымаў бы такое... На двух франтах ваяваў: нямецкім і «нашым». Не, вашым, Русак! А дзе былі страты цяжэйшыя — хто падлічыць?..

Ён гаварыў глуха, патупіўшы галаву, нібыта не звяртаючы на Русака ўвагі.

Дзядзька Сцяпан угаворваў пляменніка спыніцца, а бацьку — не звяртаць на яго п'яную балбатню ўвагі. Потым ён наліў ім у чаркі і прымусіў выпіць «міравую». Бацька паабяцаў, што нікому нічога не скажа, толькі каб астатнія змаўчалі.

Назаўтра дзядзька Сцяпан хуценька адправіў пляменніка ў часць. Што з ім сталася потым, Васіль не ведаў...

Неўзабаве цёмнай восеньскай ноччу за бацькам прыехалі і сказалі, каб хутчэй збіраўся ў доўгатэрміновую камандзіроўку. Маці вельмі ўстрывожылася, заплакала і ўсё пыталася ў тых: «Куды, у якую камандзіроўку?» Бацька супакойваў яе, гладзіў, нібы дзіця, па плячы і раз-пораз напамінаў: «Ты ж ведаеш, пытацца нельга...»

Бацькава «камандзіроўка» зацягнулася аж на сем гадоў. Толькі ў пяцьдзесят пятым даведаліся, што бацькі няма ў жывых...

...А Дзірваед чамусьці не з'яўляўся. Няўжо наўмысна цягне з прыходам? Крыўдаваць яму быццам няма прычын. Русак не мог прыпомніць ніводнага канфлікту з ім. Не было ў яго і ніякіх спагнанняў.

Дзірваед вярнуўся з камандзіроўкі ў панядзелак. З Русаком ён быў стрымана ветлівы і ад новай пасады адмовіўся. Гэта быў не капрыз, не поза, а нешта сур'ёзнае. Скончыўшы службовую гаворку, Васіль Пятровіч раптам змяніў тэму:

— Даўно былі на радзіме? Мы ж, здаецца, землякі з вамі... У вас там застаўся хто?

— Засталася. Маці... — Дзірваед памаўчаў. — На могілках...

— А бацька? — ціха спытаў Русак.

— І бацькі няма... Ёсць сястра з братам. У тым жа Элеватарным завулку.

— Элеватарным? — перапытаў Васіль Пятровіч. — А мы жылі непадалёк, на Чкалава. Чулі? Мы адтуль даўно пераехалі. Пасля таго, як бацька...

Ён раптам змоўк, не пажадаўшы расказваць далей. Дзірваед, счакаўшы хвіліну, загаварыў сам.

— Я бацьку вашага добра помню.

У тоне Дзірваеда адчувалася стрыманасць.

— Вы ведалі майго бацьку? — здзіўлена перапытаў Русак.

Дзірваед устаў, прайшоўся па кабінеце, нібы за тым, каб сабрацца з думкамі, наблізіўся да акна. На гэтай, хоць і невялічкай адлегласці ад Васіля Пятровіча, яму ўсё ж лягчэй было ўспамінаць і гаварыць пра непрыемную для абодвух мінуўшчыну. Ён стаяў у нейкім здранцвенні і потым не мог прыгадаць, калі, з чаго пачаў свой расказ. Думкі, успаміны, пачуцці ішлі нібыта сваім, асобным парадкам. Яны так зніталіся ў адно і гэтак захапілі яго істоту, што за словамі ён не сачыў. У нейкія моманты яны нараджаліся, прарываліся самі, амаль не даходзячы да свядомасці Дзірваеда...

Іх завулак атрымаў сваю назву ў «гонар» элеватара. Ён навісаў над хатамі вялікай скалой, засланяючы ўранні сонца. Вакол яго заўсёды ўвіхаліся вераб'і, галубы, вароны. Але элеватар быў карміцелем не толькі птушак.

Дзірваед разам з братам часцяком зграбалі рассыпанае пры разгрузцы зерне і прыносілі яго маці. Гэта было невялічкай, але дабаўкай да стала. Праўда, неўзабаве элеватар абнеслі высокай шчыльнай агароджай, узмацнілі ахову і «здабываць» хлеб стала значна цяжэй.

Неяк восеньскім надвячоркам, калі на самаробных жорнах малолі зерне, на двары з'явіліся міліцыянер са следчым. Адразу пачаўся допыт:

— Дзе ўзялі зерне? Колькі? Дзе схавалі астатняе?

Тут жа правялі вобыск і ў кладоўцы знайшлі мех жыта, які бацька прывёз з базару. Прычапіліся да бацькі: у каго набыў жыта? А што тут скажаш... Хіба ён цытаўся ў таго дзядзькі прозвішча, ці дзе той жыве? Потым з допыту следчага стала ясна, што здарылася... На старым мастку правалілася машына са збожжам. Кузаў моцна перакасіўся і праз задні адчэплены борт на зямлю пасыпалася жыта. Пакуль вадзіцель бегаў па дапамогу, куча зерня значна паменшылася. Пачалося следства. Нехта паказаў, што збожжа падбіраў мужчына з двума падлеткамі, якіх здаля не разгледзеў. Пад падазрэннем апынуліся Дзірваеды. Іх хата якраз стаяла непадалёк ад мастка. Праўда, у завулку жыла яшчэ сям'я, падобная на Дзірваедаў: у Юроўскіх таксама было два падлеткі. Толькі іх дом-пяцісценак стаяў у дальнім канцы завулка. Следчы лагічна «вылічыў» Дзірваедаў. Тым больш, што галоўную ўліку — жыта — адразу знайшлі ў кладоўцы. Словам, забралі Дзірваеда-бацьку. Як ён ні прасіў пакінуць «уліку» дзецям — не дазволілі. Прымусілі на сваім гарбу несці...

Апошнія словы Дзірваеда Васіль Пятровіч слухаў, панурыўшы галаву, нібы ўважліва чытаў паперу... Узаемнае маўчанне зацягвалася. Нарэшце, Русак спытаў:

— Што сталася з вашым бацькам?

— Відаць, ён таксама трапіў у жорны. Разам з тым зернем... Засталася вакансія бацькі адкрытай.

Васіль Пятровіч устаў, падышоў да Дзірваеда, спыніўся ля суседняга акна. Дзірваед пацікавіўся:

— Ну, а ваш бацька... выбіўся ў начальства, зрабіў кар'еру?

Гэта пытанне, яго падкрэслена жорсткі сэнс болем рэзанулі сэрца.

— Спынілі, не далі. У тым жа годзе, — глуха, стрымана сказаў Васіль Пятровіч.

— Што, таксама вакансія? — задумліва перапытаў Дзірваед. — А яго за што?

Русак паціснуў плячыма. Хаця тое-сёе яму ўсё ж такі было вядома... Недзе ў пяцьдзесят шостым годзе да іх з маці зайшоў незнаёмы мужчына ў ношанай вопратцы, са змучаным тварам і сказаў, што гады два быў у лагеры разам з бацькам, аж да самай ягонай смерці.

Бацька злёг і папрасіў гэтага чалавека, земляка, калі яго выпусцяць, абавязкова зайсці да нас. Ён хацеў, каб мы ведалі праўду пра той выпадак за сталом у дзядзькі Сцяпана. Тады нехта з суседзяў не вытрымаў і данёс. Бацьку ўзялі за тое, што не далажыў пра замах на сябе, як на прадстаўніка ўлады. А яшчэ ён прасіў перадаць, што калі возьмуць Ігара, то віны яго ў тым няма...

Пра гэта бацька перажываў дарэмна. Дзе ж яму было ведаць, што праз месяц пасля ад'езду ў часць старшы лейтэнант загінуў у звычайным трэніровачным палёце...

Быў канец рабочага дня. Прыціхлыя, Русак з Дзірваедам пакінулі кабінет, выйшлі на вуліцу і пры развітанні ўпершыню, бадай, паціснулі адзін аднаму руку.

Назаўтра, не заходзячы ў кабінет, Васіль Пятровіч завітаў да дырэктара.

— Ну, што скажаш? Калі закрыем вакансію? — амаль з парога сустрэў яго той пытаннем.

— Я і прыйшоў затым, каб закрыць.

— Цікава, кім жа?

— Уласнай персонай. Вось і заява.

Нібы не верачы вушам, дырэктар хуценька прачытаў паперу.

— Гэт-та што за выкрутасы? — сярдзіта затрос ён заявай. — Ну, а каго прапануеш на сваё месца?

—Дзірваеда. Памятаеце, хацеў яго ў намеснікі? Паверце, я ўсё абдумаў. Мы яго недаацэньвалі. Ён і маладзейшы за мяне, і над кандыдацкай працуе... Так справядліва будзе.

Дырэктар задумаўся ці то над словамі Русака, ці то ўспамінаючы Дзірваеда.

— Добра, ідзі. Паклічу пазней.

Каля кабінета Васіля Пятровіча чакаў Дзірваед. Прывітаўшыся, ён загаварыў першы:

— Я тут шмат чаго перадумаў за гэтыя дні... Выходзіць, бацька ваш тады панёс-такі адказнасць?

Васіля Пятровіча здзівіла, што Дзірваед чамусьці звязвае між сабой тое, што здарылася з іх бацькамі.

— А што, хіба бацьку вашага адпусцілі? Вы ж казалі...

— Проста, відаць, не паспелі. Праз год паведамілі, што памёр. Я і падумаў, што застанься бацька ў жывых, то, можа, адпусцілі б...

— Так-так, мажліва, — крыху сумеўшыся, пагадзіўся Русак. Ён наблізіўся да Дзірваеда, крануў за локаць.

—Я наконт нашых вакансій, бацькоўскіх. Слова гэткае... Іх ніяк не павінна быць, яны ж — не пустыя месцы. Інакш абарвецца ўсё, разумееце? Мы цяпер і за іх жывём, бо і мы ж — бацькі. А яны быццам тут недзе, побач, толькі ў нейкім сваім, асаблівым вымярэнні жывуць...

Васіль Пятровіч спыніўся, пачакаў, што скажа Дзірваед. Той маўчаў.

— А тое, што было... Трагедыя гэта. Сувязь між людзьмі пачала рвацца. Ды што людзі! Народ дзяржаву часам зразумець не мог. Нібы не пазнаваў яе, а яна — народ свой...

Дзірваед слухаў уважліва, але па ім нельга было зразумець, згодзен ён з Русаком, ці не.

«Чаму ж ён маўчыць? Ці зможам дамовіцца з ім, рабіць разам? — завагаўся Васіль Пятровіч. — Мо, трэба расказаць пра ўсё? Няёмка неяк. Нібы адкупнога збіраюся даць...»

І Русак, быццам без сувязі з папярэднім, зазначыў:

— А наконт вакансіі, што я казаў, прабачце, яе ўжо няма: мяне самаго пераводзяць.

Дзірваед не вытрымаў, загаварыў:

— Не трэба, Васіль Пятровіч. Цаню высакароднасць вашу, але пры чым тут пасада, работа? Няхай тады людзі рашаюць. Лепш ужо выбары... Што да мяне, то я за вас галасаваць буду...

Русак працягнуў Дзірваеду руку, пажартаваў:

— А вось мая рука — ваша! Не, я за вас нават абедзве ўзніму. Так што паглядзім яшчэ, хто каго...

# На шляхах пошуку

**Новая праграма Дзяржаўнага ансамбля танца БССР**

**Прапануючы на суд чытачоў рэцэнзію двух маладых крытыкаў, не буду агаворваць катэгарычнасць іх ацэнак (уласцівую, як вядома, маладосці), якую я спрабавала змякчыць рознымі «дыпламатычнымі» выразамі тыпу: «Нехта недзе ў нас парой». Важна, як мне здаецца, у гэтай рэцэнзіі і іншае: зацікаўленасць, прафесіяналізм, жаданне бачыць Дзяржаўны ансамбль танца БССР эталонам нацыянальнай харэаграфіі.**

**Юлія ЧУРКО.**

Сёння ўсё гучней чувацъ галасы, якія сцвярджаюць, што народна-сцэнічная харэаграфія знаходзіцца ў «застоі», што настаў нейкі творчы крызіс у гэтай галіне мастацтва. Сапраўды, мы адчуваем вострую нястачу калектываў, якія мелі б сваё непаўторнае творчае аблічча. Шматлікія ансамблі танца (і самадзейныя, і прафесійныя) падобныя адзін да аднаго, як браты і сёстры. Глядзіш выступленне такога ансамбля, і цябе не пакідае думка, што ты ўжо гэта бачыў неаднойчы. Стандарт балетмайстарскай думкі сёння асабліва адчувальны ва ўсёй народна-сцэнічнай харэаграфіі, таму і працаваць у ёй досыць цяжка. Трэба шукаць нешта новае.

Што ж новае прапануе наш вядучы харэаграфічны калектыў, Дзяржаўны ансамбль танца БССР, якому сёлета спаўняецца трыццаць гадоў? Праграма, нядаўна прадстаўленая яго артыстамі на суд мінчан, стала адразу *і юбілейным канцэртам*, і своеасаблівай творчай справаздачай Валянціна Дудкевіча, які на працягу ўжо двух гадоў узначальвае ансамбль. Нячаста ў апошнія сезоны гэты калектыў радаваў гледачоў новымі і цікавымі канцэртнымі праграмамі. (Гэта тлумачыцца, відавочна, перш за ўсё частай зменай кіраўніцтва і шэрагам як аб'ектыўных, так і суб'ектыўных прычын). Можа, яшчэ і таму гэтак цёпла прымалі гледачы мастацтва беларускіх артыстаў.

Перш за ўсё звяртае на сябе ўвагу жаданне балетмайстра захаваць лепшае з таго, што было створана мінулымі пакаленнямі беларускіх харэографаў. Такія пастаноўкі, як «Лявоніха», «Полька-Янка», своеасаблівая класіка беларускай сцэнічнай харэаграфіі, добра знаёмыя шырокаму гледачу. Адноўлена і «Купальская сюіта», створаная ў свой час вядомым майстрам С. Дрэчыным. У танцы, хутчэй «харэаграфічным дзействе», узноўлена паэтычная атмасфера народнага купальскага абраду, калі дзяўчаты варожаць на свечках, кідаюць вянкі ў раку, выбіраюць нарачонага... Невыпадкова гэты нумар завяршаў першае аддзяленне канцэрта і асабліва спадабаўся гледачу.

Поруч з аднаўленнем старых нумароў у калектыве ідзе работа па стварэнні новых. Харэаграфічная думка не стаіць жа на месцы: яна рухаецца наперад, развіваецца. Змяняецца і сам глядач: павышаецца яго культурны ўзровень, растуць ягоныя патрабаванні і да балетмайстра, і да выканаўцаў. Тое, што было цікава трыццаць, дваццаць і нават дзесяць гадоў назад, ужо цалкам не можа задаволіць людзей, якія сядзяць у зале сёння. Да ўсяго, пашыраецца і наша ўяўленне пра фальклор. У апошнія гады знойдзена шмат народных танцаў, нават назвы якіх не былі вядомыя сцэне: «Жабка», «Пава», «Заёнец», «Джанджоха», «Мост масціць», «Пачасуха»... А якая разнастайнасць полек, кадрыляў, карагодаў існуе ў народзе ў мностве варыянтаў!

І ў той жа час пытанне захавання і развіцця народнай спадчыны паўстае сёння дастаткова востра. Усё менш застаецца людзей, якія б памяталі, ведалі і змаглі паказаць старажытныя танцы. Вось чаму вывучэнне, збіранне і прапаганда фальклору — задача актуальная. Першыя крокі ў гэтым напрамку зроблены. Калектыў супрацоўнічае з навукова-даследчай лабараторыяй беларускай танцавальнай творчасці, што пры кафедры харэаграфіі Мінскага інстытута культуры. Прапанаваныя супрацоўнікамі кіна-фотаматэрыялы, запісы фальклорных танцаў наноў асэнсоўваюцца і перапрацоўваюцца В. Дудкевічам. Здатныя дапамагчы справе, аказваецца, і балетмайстарскія опусы студэнтаў-харэографаў, зробленыя па матывах народнай творчасці. На аснове лепшых у ансамблі танца створаны «Пераступы» (ядром тут сталася пастаноўка студэнткі Н. Русакевіч «Малаточкі»), «Полька на табурэтах» (знойдзена ў адной з фальклорных экспедыцый і распрацаваная студэнткай М. Прохаравай) — яны цяпер з поспехам ідуць у канцэртнай праграме.

Паказаў ансамбль і іншыя новыя нумары. У свой час вялікую вядомасць і распаўсюджанне на сцэне мела «Бульба» ў пастаноўцы І. Маісеева. Ствараючы новы варыянт гэтага танца, В. Дудкевіч паспрабаваў знайсці сваю трактоўку, абнавіць яго сюжэт. Сама гэтая *спроба* вартая ўхвалы: ад шматразовага паўтарэння фарбы блякнуць. Але новая «Бульба» ўсё ж такі не прынесла задавальнення. На наш погляд, зліццё традыцыйнай і сучаснай лексікі не сталася арганічным. Эфектна і займальна выглядалі ў пастаноўцы В. Дудкевіча «Пастухоўскія гульні». У іх шмат выдумкі, пластычных знаходак, але... разнастайныя прыёмы аб'яднаны тут крыху *механічна, што робіць уражанне* нейкай эклектычнасці. Даволі рэдкую для сцэнічнай харэаграфіі форму сольнага танца распрацоўвае балетмайстар у пастаноўцы «Крутуха», ды, на жаль, у ёй выкарыстоўваюцца фарбы, якія з цягам часу ўжо, так бы мовіць, амартызаваліся, бо шмат гадоў існавалі на сцэне ў вядомай пастаноўцы Г. Мартынава «Паўлінка».

У другое аддзяленне новай праграмы, апроч беларускіх нацыянальных танцаў, увайшлі і пастаноўкі, створаныя на аснове харэаграфіі іншых народаў, — «Рускі», «Украінскі», «Цыганскі» танцы. Іх поспех вызначаўся высокім тэхнічным узроўнем *выканання*, дэманстрацыяй шматлікіх трукаў. Выбар жа гэтых нумароў выклікае пытанні. Шматлікія самадзейныя і прафесійныя калектывы неаднойчы інтэрпрэтавалі разнастайныя цыганскія танцы, заразлівы тэмперамент якіх быццам бы ўжо загадзя забяспечвае поспех. Ці варта гэтым шляхам ісці Дзяржаўнаму ансамблю? *І калі* ўжо беларускі калектыў, аддаючы даніну нашаму пачуццю інтэрнацыяналізму, хоча ўключаць у праграму танцы іншых народаў, то, магчыма, правамерна будзе ўспомніць, што на нашай сцэне дастаткова рэдка мы бачым танцы сваіх бліжэйшых прыбалтыйскіх суседзяў. І наогул, ці варта Дзяржаўнаму ансамблю танца БССР заканчваць выступленне няхай цудоўнай, але ўсё ж такі рускай пляскай? Калі не мы будзем захоўваць і прапагандаваць беларускія нацыянальныя танцы, дык хто?

У харэаграфічным мастацтве кожная састаўляючая (музыка, харэаграфія, сцэнаграфія) «працуюць» на стварэнне вобраза. Усе гэтыя кампаненты могуць дапамагаць або перашкаджаць гледачу ва ўспрыманні канцэртнага нумара. Ведаючы гэта, і балетмайстар, і мастак зрабілі ўсё магчымае, каб з'яднаць харэаграфію і сцэнаграфію. Яркія, з выкарыстаннем *размаітых беларускіх* арнаментаў, касцюмы артыстаў дапаўнялі той вобраз, які ўзнікаў на сцэне. Радасны, мажорны настрой стваралі касцюмы ў танцах «Бульба», «Крыжачок». Лірызмам і цяплом прасякнуты строі артыстаў у «Купальскай сюіце». У кожным нумары — мастакоўскі густ, тонкае пачуццё нацыянальнага каларыту і веданне законаў сцэны.

Што датычыць музыкі, дык ад яе чакаеш большага. Не прэтэндуючы на дасканалы аналіз, падкрэслім некаторыя аспекты арганізацыі музычнага суправаджэння ансамбля. Апошнім часам дзякуючы энтузіязму людзей, улюбёных у фальклор, значна пашырыліся нашы ўяўленні пра беларускія музычныя інструменты. Усё часцей пабачыш на сцэне ліру, басэтлю, дуду. Іх непаўторныя тэмбры аздобілі шэраг прафесійных і самадзейных калектываў. На жаль, у музычным суправаджэнні Дзяржаўнага ансамбля танца БССР гэтым інструментам не належыць вядучая роля. *Яна* аддадзена групам медных духавых і ўдарных, што стварае атмасферу, больш уласцівую гучанню ваеннага, чым народнага, аркестра. Нацыянальны каларыт найярчэй адчуваецца ў тых выпадках, калі балетмайстар выкарыстоўвае фанаграмнае суправаджэнне, але, вядома ж, нават самыя добрыя фанаграмы не заменяць жывога гучання народных інструментаў. Хацелася б, каб аркестр ансамбля ўключаў усю разнастайнасць беларускага інструментарыя ў некалькіх камбінацыях: ад традыцыйнага аркестра народных інструментаў да размаітых гуртоў, тую ж «траістую музыку». Тады музычная палітра была б шматколернай, і з'явілася б магчымасць знайсці для кожнага харэаграфічнага нумара адметнае спалучэнне аркестравых галасоў. Звужвае дыяпазон музычных фарбаў і аднатыпнасць выкарыстаных мелодый, а правільны іх выбар *надаў бы неабходную для музычна-харэаграфічнай* драматургіі кантрастнасць.

А ці даюць магчымасць для такога выбару «запасы» фальклорнага танцавальнага меласу Беларусі? Дасведчаныя ў гэтай галіне адкажуць, безумоўна, здавальняюча. Не кажучы пра вядомыя, але рэдка скарыстоўваемыя ў практыцы зборнікі фалькларыстаў і этнографаў мінулага, мноства музычных тэм сабрана за апошнія гады Рэспубліканскім навукова-метадычным цэнтрам і навукова-даследчай *лабараторыяй* беларускай танцавальнай творчасці МІКа. Гэты багаты, і нават часткова апублікаваны, матэрыял застаўся, як нам здаецца, па-за ўвагай музыкантаў. Па-за ўвагай аказалася і музычная драматургія, якая ў лепшым выпадку толькі ілюструе харэаграфічную, у горшым — выглядае нескончаным паўтарэннем тэмы рознымі інструментамі. Такія суадносіны музыкі і харэаграфіі, дзе першай адведзена вузка прыкладная роля, збядняе каштоўнасць мастацкага твора і не дазваляе фантазіі балетмайстра раскрыцца ў поўнай меры. Прыгадайма, што найбольш паўнагучны характар у той музычна-харэаграфічнай кампазіцыі, дзе абедзве састаўляючыя маюць самастойную каштоўнасць і, не парушаючы драматургічнага адзінства, развіваюцца па сваіх уласных, унутраных законах. Наогул, стварэнне музыкі на аснове народных мелодый і задумкі балетмайстра — гэт складаны творчы працэс, да якога лепш за ўсё далучаць кампазітараў, здатных глыбока адчуць законы танца і выказаць самабытны пункт гледжання на фальклорны мелас.

Падагульняючы свае ўражанні, скажам, што цэласнага мастацкага вобраза новай праграмы, на жаль, не ствараецца. Ансамбль, падалося нам, пакуль не знайшоў свайго творчага аблічча. І міжволі ўзнікае пытанне: можа, пошукі яго галоўнага балетмайстра яшчэ не набылі сапраўднага кірунку і асобныя прывабныя поспехі не могуць вырашыць праблему, якая вымагае прынцыпова новага падыходу? Магчыма, жыццё ансамбля танца ў новых умовах вымагае іншай канцэпцыі, новай творчай мадэлі?

Але калектыў працягвае пошук. У далейшых задумах В. Дудкевіча — стварэнне цэласнага спектакля (па матывах народнага абраду «Каляда»), аснову якога, мяркуе балетмайстар, складзе сцэнічная распрацоўка фальклорнага матэрыялу. Безумоўна, праца будзе нялёгкая, але спадзяёмся, што калектыў ансамбля адкрые сваё сапраўднае творчае аблічча, і аблічча гэтае будзе самабытнае.

**Алена ІЛЬЫНА,**
**Сяргей КЛІМОВІЧ.**

**МУЗЫКА**

## ...І творы Ельскага

**На кафедры скрыпкі Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі прайшоў конкурс на лепшае выкананне твораў беларускіх кампазітараў. Побач з музыкай сучасных аўтараў А. Багатырова, Я. Глебава, П. Падкавырава, Э. Тырманд і інш., студэнты павінны былі выканаць адзін з твораў беларускага кампазітара XIX стагоддзя М. Ельскага. Ураджэнец Міншчыны, вучань выдатных скрыпачоў А. В'етана і К. Ліпіньскага, ён меў як выканаўца еўрапейскую вядомасць. Цікавыя і творы М. Ельскага, напісаныя ў віртуозна-рамантычным стылі. (На конкурсе прагучалі п'есы «Танец духаў», «Танец смерці», Канцэртная мазурка і «Песня без слоў»).**

**У журы конкурсу, акрамя педагогаў кафедры, былі кампазітар дацэнт БДК Э. Тырманд і загадчык кафедры Мінскага інстытута культуры кандыдат мастацтвазнаўства А. Капілаў.**

— Выкананне твораў беларускіх кампазітараў, — сказаў пасля конкурсу А. Капілаў, — сталася добрай традыцыяй у сценах кансерваторыі. Конкурс выклікаў у мяне прыемнае ўражанне. Раскрыю маленькі сакрэт: я не толькі член журы, але і зацікаўленая асоба. На працягу многіх гадоў я праводзіў работу па вышуку ў розных архівах твораў беларускіх аўтараў, і вельмі рады, што гэтая музыка цяпер гучыць. Маё цвёрдае перакананне: калі музыку пачынаюць выконваць студэнты, ёй забяспечана доўгае жыццё.

— Усцешна тое, — адзначыла Э. Тырманд, — што скрыпачы звярнуліся да беларускай музыкі дарэвалюцыйнага перыяду. Адчуваецца, што студэнты паставіліся да гэтага з асабістай зацікаўленасцю і вельмі добрасумленна вывучылі гэтыя творы. Нямала ўвагі аддалі конкурсу і педагогі. Было цікава слухаць і назіраць, як адзін і той жа твор выклікае розны падыход, розную трактоўку.

— Адсутнасць традыцый, устойлівых штампаў выканання твораў М. Ельскага адкрывала прастору для творчай фантазіі як педагогаў, так і студэнтаў, — дадае в. а. загадчыка кафедры скрыпкі дацэнт В. Зяленін. — Заўважу, што ў кафедры ёсць дамоўленасць з Беларускім таварыствам дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі наконт удзелу пераможцаў нашага конкурсу ў канцэртах, якія праводзяцца таварыствам. Такім чынам у нас з'яўляецца магчымасць пазнаёміць нашых замежных сяброў са акрыпічнымі творамі беларускіх кампазітараў розных эпох.

**Застаецца назваць пераможцаў конкурсу. Гэта студэнтка III курса М. Чырэйкіна (1 месца), студэнты II курса Н. Смердава (2 месца) і С. Ануфрыенка (3 месца).**

**Р. КРЫВЕЛЬ,**
**старшы выкладчык БДК.**

**ПРЭМ'ЕРЫ**



**«Дзікае паляванне караля Стаха» — оперу У. Солтана паводле аднайменнай аповесці У. Караткевіча (лібрэта склала С. Клімковіч) паказаў Дзяржаўны тэатр оперы і балета БССР. Першы спектакль, сыграны 6 красавіка, артысты прысвяцілі памяці яго музычнага кіраўніка, народнага артыста СССР Я. Вашчака, які да апошніх дзён жыцця працаваў над партытурай маладога аўтара.**

**Пастаноўку ажыццявілі дырыжор заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР А. Анісімаў, сцэнограф Э. Гейдэбрэхт, мастак па касцюмах Э. Грыгарук, хормайстры народны артыст БССР А. Кагадзееў, Г. Луцэвіч, Н. Ламановіч, балетмайстар М. Дудчанка. У галоўных партыях Н. Кастэнка, заслужаныя артысты БССР В. Скарабагатаў, У. Экнадзіёсаў, народны артыст БССР Я. Пятроў і іншыя.**

**НАШ КАР.**

Фота Ул. КРУКА.

# Ліст з ГДР

**За апошні час павялічылася колькасць выданняў, якія СП Беларусі высылае нашым замежным сябрам. З другога боку — усё часцей мы атрымоўваем з-за мяжы водгукі на новыя творы беларускай літаратуры, якія з'яўляюцца на старонках нашай перыёдыкі. Справа як быццам бы звыклая, традыцыйная, але, тым не менш, прыемна здзіўляе тая вялікая ўвага і глыбокая зацікаўленасць, якія гучаць у водгуках прыхільнікаў і прапагандыстаў нашай літаратуры. І тут даюць свае станоўчыя вынікі перабудова, новае мысленне.**

**Днямі я атрымаў з ГДР ліст ад вядомага ўсім нам («ЛіМ» неаднойчы пра яго пісаў) літаратара-перакладчыка, даўняга і вернага сябра беларускай культуры Норберта Рандава. «Некалькі дзён таму назад, — піша, ён, — я атрымаў ад Саюза беларускіх пісьменнікаў дзве пасылкі з газетамі і часопісамі; у адной былі першы нумар «Нёмана», другі нумар «Полымя» (першага нумара, на жаль, не было, а ў ім, мне здаецца, змешчана аповесць Васіля Быкава «Аблава», на якую мне тут трэба напісаць рэцэнзію для берлінскага выдавецтва «Фольк унд Вельт» — для гэтага я, хочаш не хочаш, павінен прачытаць нумар часопіса) і яшчэ два першыя нумары «Маладосці». У другой пасылцы знаходзіліся апошнія два нумары «ЛіМа» за мінулы год і першыя восем нумароў за гэты год (на жаль, без пятага нумара, але я спадзяюся, што яго мне яшчэ дашлюць; хачу падзяліцца з табою сваёю таямніцаю: я вяду падшыўкі «ЛіМа» з таго часу, як ён стаў вельмі цікавы, і аддаю іх у пераплёт, і мне было б вельмі шкада, калі б у мяне раптам адсутнічаў які-небудзь нумар).**

**Падзякаваўшы з уласцівай яму карэктнасцю за пасылкі, Норберт Рандаў выказвае далей прызнальнасць за змешчаную ў «ЛіМе» рэцэнзію на яго анталогію беларускага апавядання «Малады дубок». «А калі ты прышлеш мне гэтай газеты яшчэ адзін нумар, я буду рады ўдвайне»,— дадае аўтар ліста.**

**Далей наш сябар дзеліцца сваім новым творчым здабыткам. «Спадзяюся, — піша ён, — што на днях ты атрымаеш нямецкае выданне «Казак жыцця» Якуба Коласа. Кніжка атрымалася прыгожая (тут Н. Рандаў мае на ўвазе арыгінальнае афармленне, для якога выкарыстаны вытрыманыя ў фальклорна-філасафічным, сугучным творам Коласа духу акварэлі польскай мастачкі Іваньскай. — А. Г.).**

**«Прызнаюся табе, — піша ў заключэнне перакладчык, — што чытанне «ЛіМа» і вашых часопісаў моцна ўздзейнічае на мяне, кранае сэрца... Жадаю табе і ўсім сябрам у Мінску вытрымкі і сілы ў барацьбе з абыякавасцю і розным «цемрашальствам», за перабудову».**

**Вось такі ліст атрымаў я з Берліна. Для мяне ён як працяг тых памятных, шчырых гутарак, якія я меў з Норбертам Рандавам у час яго прыездаў да нас. І хачу яшчэ звярнуць увагу чытача на тую, вядомую перш за ўсё мне, як адрасату, акалічнасць, што ліст напісаны дакладна ў такім выглядзе, як ён друкуецца, — на добрай, чыстай, абсалютна граматнай беларускай мове.**

**Аляксей ГАРДЗІЦКІ.**

# «Так многа патрэбна сказаць нам»

**Зусім не юбілейныя развагі ў сувязі з 80-годдзем з дня нараджэння Валерыя МАРАКОВА**

ЯКІМ бы жорсткім і няўмольным ні быў лёс да Валерыя Маракова, але тут ён злітаваўся. Калі ў многіх творцаў, што сталі ахвярамі сталінізму, нават асобныя публікацыі загубіліся, кануўшы ў лету, не кажучы ўжо аб рукапіснай спадчыне, дык у яго захаваліся ўсе чатыры зборнікі. Дастаткова завітаць у беларускі аддзел Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна, каб праз якую паўгадзіны ўзяць у рукі кніжачкі, якія, здаецца, сагрэты цяплом самога сэрца аднаго з самых цікавых і складаных нашых паэтаў дваццатых-трыццатых гадоў.

**Свядома не называю зборнік В. Маракова «Лірыка», выдадзены ўжо ў 1959 годзе, тады, калі грамадскія вятры падзьмулі на адлігу. Канечне, выхад гэтай кнігі быў падзеяй ужо таму, што вярталася новым пакаленням чытачоў імя творцы, якое замоўчвалася добрых дваццаць гадоў. І ўсё ж радасць вяртання В. Маракова была азмрочана, бо перадрукавалася толькі нямногае з яго, не такой ужо і малой спадчыны, ды і трапіла пад вокладку «Лірыкі», як на маю думку, не самае характэрнае: чамусьці ў асноўным толькі вершы сацыяльна-грамадзянскага кірунку, хоць В. Маракоў, як вядома, найперш быў лірыкам.**

Каб атрымаць найбольш поўнае ўяўленне аб паэце, усё ж трэба чытаць і перачытваць яго прыжыццёвыя выданні. Першы зборнік В. Маракова «Пялёсткі» з'явіўся ў 1926 годзе, калі аўтару яшчэ не споўнілася і семнаццаці. Праз год выйшла другая кніжка — «На залатым пакосе». У 1930 годзе пабачылі свет «Вяршыні жаданняў», яшчэ праз тры гады — «Права на зброю». У тагачаснай паэзіі такіх прыкладаў нямала, калі чарговыя паэтычныя зборнікі аўтараў, вядомых і невядомых, выходзілі часта, часам з'яўляліся на паліцах кнігарань адзін за адным, быццам тыя грыбы пасля спорнага, цёплага дажджу.

Ды дождж такі і прайшоў. Праўда, навальнічны і асенні, кастрычніцкі, але пасля яго зазелянела рунь на гонях нацыянальнай культуры. Адным з парасткаў яе і быў сын рабочага, былога царскага салдата Дзмітрыя Маракова Валерый, які нарадзіўся, як піша ў сваіх успамінах С. Шушкевіч, «на ўскраіне Мінска, у невялічкім паселішчы Акалонія... Праз пяць год побач з хатай Мараковых вырас шнурочак новых дамоў і хацінак, вырасла новая вуліца. І таму, што пасяліўся на ёй Дзмітрый Маракоў, чалавек, род якога, як відаць, з прозвішча, звязаны з морам, тутэйшыя жыхары і назвалі вуліцу Марской, а ў далейшым стала яна Вялікаморскай».

**Далейшая біяграфія В. Маракова мала чым розніцца ад жыццяпісу яго аднагодкаў: праца мулярам, вучоба ў Мінскім белпедтэхнікуме, а потым на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні Мінскага педагагічнага інстытута, які скончыў у 1934 годзе. І — няпоўныя тры гады працы настаўнікам, журналістам, а да ўсяго — паэзія, якая неўзабаве стала яго сапраўдным прызваннем.**

Паэтам В. Маракоў быў па сваёй сутнасці. Лірычнасць, песеннасць яго натуры кідалася адразу ў вочы. Гаваркі, шчыры, непасрэдны... А. Звонак згадвае: «Вось і зараз стаіць перад вачыма дужая постаць маладога, зграбнага хлопца з шырокімі плячамі, з кучаравымі светлыміваласамі, з блакітнымі яснымі вачыма, у якіх заўсёды свяцілася чалавечая дабрата, добразычлівая ўсмешка і крыху сарамлівая наіўнасць».

**Ці не гэтыя якасці прыхінулі паэта-юнака да самога Янкі Купалы?! Хто-хто, а дзядзька Янка добра ведаў цану сапраўднай дружбе і сяброўству. Ён жа, па словах С. Шушкевіча, «Маракова акрыляў бацькоўскай ласкай і прыхільнасцю. Народны паэт не раз запрашаў да сябе юнака на сваю кватэру і цешыўся яго першымі творчымі крокамі. Вядомыя пісьменнікі старэйшага і малодшага пакалення — Міхась Чарот, Паўлюк Трус, Пятрусь Броўка, Алесь Дудар, Васіль Сташэўскі, Максім Лужанін — прыхільна ставіліся да творчасці Валерыя Маракова і былі звязаны з ім шчырым і моцным сяброўствам».**

У гэтай атмасферы сардэчнасці, сапраўднай творчай прыязні і ўзаемаразумення, калі кожны шчыра і адкрыта радуецца поспехам сябра, і з'яўляліся вершы В. Маракова. На самым пачатку свайго мастакоўскага шляху малады аўтар, падобна сваім калегам па пяру, адчуваў здзіўленасць перад новым светам і гэтае захапленне імкнуўся перадаць на паперы. Дастаткова перачытаць некалькі ранніх твораў В. Маракова (са зборніка «На залатым пакосе»), каб пераканацца, што яго паэзія развівалася і сталела ў рэчышчы агульных пошукаў творцаў дваццатых гадоў.

Твор, якім кніжка адкрываецца:

**З ценямі думкі, а з думкамі цені**
**У даль па шпалерах бягуць.**
**Нехта стаіць прад зарой на каленях**
**Выпіўшы сэрца разгул.**

**Месяц чырвонцам скаціўся у травы,**
**Ціш, хоць душу вынімай,—**
**Сёння мне песняў, пачуццяў і славы,**
**Тых, што ў нікога няма!**

В. Маракоў нічога не хацеў браць напавер. Ні ў жыцці, ні ў літаратуры. Яму самому хацелася прайсці там, дзе ўжо прайшлі іншыя, каб адчуць тое самае, што ўжо адчувалі і яны. Невыпадкова, у адным са сваіх тагачасных твораў ён прызнаўся: «Мне хочацца любіць, задумацца і верыць, душу з другімі душамі зліваць».

І ў «Пялёстках», і ў зборніку «На залатым пакосе», і ў «Вяршыні жаданняў» пастаянна прысутнічае, няхай і апасродкава выяўляючыся, гэтае жаданне любіць усё наўкола. Усё! А можа, таму «ўсё», што пакуль што, як відаць з верша «Я не кахаў», ні сам паэт, ні яго лірычны герой, не перажылі асабіста пачуцця з пачуццяў, не апаліліся каханнем?! — «Я не кахаў,— кахаліся другія. А я на іх з трывогаю глядзеў».

**Як бы там ні было, але, відаць, не без гэтай незадаволенасці сваім, асабістым, у В. Маракова часам гучалі ясенінскія матывы. У самім творчым наследаванні традыцый цудоўнага рускага лірыка, зразумела, нічога благога. Але бяда ў тым, што В. Маракова, калі можна так сказаць, цікавіў не сам С. Ясенін, а толькі тое скандальна-надрыўнае, што спадарожнічала асобным яго, далёка не лепшым у мастацкіх адносінах творам. Нават у такім, здавалася б, асабістым вершы, як «Адказ», што адрасаваны блізкаму таварышу, В. Маракоў не ўстрымаўся, каб не «заспяваць»: «Ах, пакінь ці выбачай Валеры, цёплых слоў і ўсмешак не прасі: мне хацелася б з табою верыць, што знайшоў ты мэту ў жыцці».**

**Хутчэй за ўсё і сам паэт адчуваў, што залішне заглыбляецца ва ўсё гэта экзальтавана-нарочыста, «патанае» ў камернасці, набліжаецца да сентыментальнасці.**

Аднак у яго кнізе «Права на зброю» ўжо ўзмацніліся сацыяльныя матывы. Апяваючы новую «Беларусь»: «Будуюцца, растуць палацы, і дзень і ноч—агонь і дым... Вякі не знalі гэткай працы, што нашы ўздыбілі гады», В. Маракоў разам з тым узнімае свой гнеўны (у духу часу!) голас супраць усяго негатыўнага, што назіраў у паўсядзённасці. У гэтым сэнсе характэрны верш «Рахунак, паэты, пададзены да аплаты». Як і многія творы дваццатых-трыццатых гадоў, верш прывязаны да канкрэтнай падзеі, аб чым аўтар і паведамляе ў прысвячэнні: «Камсамолка Каця Крычэня скончыла жыццё самагубствам, уключыўшы сябе ў лінію электрычнага току. Прычына самагубства — няправільнае зняцце з работы і прыпісванне ёй шкодніцтва, якое ўтварыў — здрадзіўшы свайму класу — рабочы; за гэтым рабочым Крычэня жыла некаторы час. З матэрыялаў ячэек КП(б)Б».

У творы на гэты раз адчувальны матывы Маякоўскага:

**Чалавек —**
**гэта вам не мумія,—**
**ўзяў са склепу і выштурхнуў,**
**чалавек —**
**гэта сад**
**з залатымі думамі,**
**дзе па жылах праходзіць**
**блакітны агонь.**

Інтанацыя ўзмацняецца, набываючы ўсё больш выкрывальны пафас, дае аб сабе знаць нават «ворагаманія»: «Мы новыя ўзводзім падмуркі і сцены, а нехта рукою нахабнай іх пляміць», «Ты робішся ворагам, злосны прагульшчык, спыняеш вагоны і крышыш станкі». Яшчэ больш выкрывальны аўтар у заключных радках свайго верша:

**Ніякай нам літасці**
**сёння не трэба,**
**мы проста і шчыра**
**свой край беражэм.**
**Над намі, як вечнасць,**
**шырокае неба,**
**і слаўныя дні**
**нашых слаўных паэм...**
**І мы аддамо**
**усю сілу змаганню,**
**ўвесь розум і сэрца**
**нашчадкам вясны.**
**Мы будзем лячыць**
**і смяротныя раны,**
**каб пляміць усход наш**
**не смелі яны.**

У тым, што В. Маракоў так часта кідаўся ў крайнасці — то сентыментальная рамансавасць, то паэтычныя агіткі, часам пазбаўленыя самой паэзіі, — пэўная віна тагачаснай літаратурнай і ідэалагічнай крытыкі. Яна ж, аддамо ёй належнае, пастаянна трымала яго ў полі свайго зроку. Іншая справа, на што і як арыентавала. У гэтым патоку водгукаў і рэцэнзій ці не самае бяскрыўднае слова П. Броўкі «У пошуках паэзіі», змешчанае пад рубрыкай «Творчая дыскусія» ў «ЛіМе» (№ 24, 6 верасня 1933 г.).

**Дзелячыся думкамі пра творчасць некаторых паэтаў, пра В. Маракова ён піша так: «Валерый Маракоў — пры ўсім сваім жаданні цвёрда стаць на сучасную тэматыку ніяк не пазбавіцца ад лёгкага экзатычнага грузу, прынесенага ім ад старой паэзіі і практыкаванага ім у часы «маладнякізму». Адтуль і лёгкасць падыходу да пабудовы рэчы, якая часам прыводзіць да бессансовасці і цяпер яшчэ гэта робіць ягоныя рэчы часамі нежыццёвымі. Некалі ў гутарцы з адным таварышам ён назваў Валерыя Маракова «невычэрпнаю крыніцаю лірыкі». Я згодзен з ім, але трэба гэтую крыніцу добра ачысціць ад таго смецця, якое наляцела на яе звонку».**

Калі адкінуць убок тое, што звязана са «старой паэзіяй», дык у цэлым сказана правільна. Тым больш, меў рацыю невядомы «таварыш» з яго дакладным вызначэннем самой сутнасці мастакоўскага вобліку В. Маракова.

Куды больш сур'ёзныя закіды В. Маракову зрабіў С. Левін у артыкуле «Нататкі пра творчасць Валерыя Маракова», таксама надрукаваным у «ЛіМе» (№ 31, 26 лістапада 1933 года). Разглядаюцца ўсе зборнікі паэта, за выключэннем «Права на зброю», які тады толькі меўся выйсці з друку. Не сказаць, каб С. Левін быў няўважлівым чытачом. Для свайго часу дык ён няблага разабраўся ў творчай лабараторыі В. Маракова. У зборніку «Пялёсткі» заўважыў «меланхалічна-сентыментальныя, самотна турблівыя тоны». Пра кніжку «На залатым пакосе» сказаў і такое: адчуваюцца «ўжо некаторыя грамадскія матывы, але побач з імі ёсць вершы, якія прасякнуты моцным індывідуалізмам і нічым не адрозніваюцца ад вершаў першага зборніка». Яшчэ большую сацыяльную паглыбленасць крытык убачыў у «Вяршынях жаданняў». «У гэтым зборніку паэт на вялікую дыстанцыю адышоў ад ранейшых сваіх настрояў. Паэт канчаткова развенчвае мяшчанства, самакрытыкуе сябе».

Паўтараю: для свайго часу С. Левін няблага разабраўся ў творчасці В. Маракова, назваўшы і яе моцныя, і яе слабыя бакі. Але, ведаючы сёння, які гэта складаны час быў, як ламаліся чалавечыя лёсы, няцяжка здагадацца, чым маглі неўзабаве агукнуцца такія, здавалася б, зусім бяскрыўдныя заўвагі, як «меланхалічна-сентыментальныя, самотна турблівыя тоны». Тым больш, што ўжо гучаў сапраўдным абвінавачаннем заўважаны «прынцыповым «крытыкам» у вершах В. Маракова «моцны індывідуалізм». Наконт заключаных вывадаў С. Левіна, дык яны — тут ужо ніякага сумнення быць не можа — браліся на ўзбраенне нядобразычліўцамі паэта: «...Мы скажам паэту,— пісаў С. Левін,— трэба браць матэрыял для сваёй творчасці ад багатай складанай рэчаіснасці. Сваю лірыку В. Маракоў павінен паставіць на службу сацбудаўніцтву. В. Маракоў павінен сваёй лірыкай уздзейнічаць на нашага пра-



летарскага чытача, уздзейнічаць так, каб ён яшчэ больш ненавідзеў нашых ворагаў і захапляўся энтузіязмам і воляй працоўных».

Бедны В. Маракоў! Ён, канечне ж, пастараўся б улічыць усе гэтыя «указующие» заўвагі, але ж вершы новыя былі напісаны, яго чацвёрты зборнік якраз друкаваўся. Відаць, каб мог прадугадаць, што з'явіцца падобны артыкул, падобная ацэнка яго творчасці, назву змяніў бы на іншую. А так зусім небяспечна — «Права на зброю». Пры «аргвывадах», якія прагучалі з вуснаў крытыкі, куды лепей, калі б на вокладцы стаяла нешта больш нейтральнае, такое, што не надта б кідалася ў вочы. Цяпер жа назва «Права на зброю» станавілася той мінай замаруджанага дзеяння, якая рана ці позна, але абавязкова павінна была ўзарвацца.

«Узрыў» не дазволіў сябе чакаць. Яшчэ аўтар не паспеў нарадавацца выхаду чарговай кнігі, як на самым пачатку новага года «ЛіМ» выйшаў з вялікай рэцэнзіяй М. Клімковіча «Пра кніжку В. Маракова «Права на зброю» («Літаратура і мастацтва», № 2, 12 студзеня 1934 года). М. Клімковіч тады быў старшынёй арганізацыйнага камітэта па стварэнні Саюза пісьменнікаў, а гэта значыць, што яго выступленне неабходна было разглядаць не толькі як асабістае меркаванне таварыша аб чарговым паэтычным зборніку калегі, а і як у пэўнай ступені афіцыйную думку і аб самой кнізе, і аб творчасці В. Маракова ўвогуле.

Праўда, і М. Клімковіч не адмаўляў таго станоўчага, што было ўжо ў творчасці паэта, аб чым сведчыць і пачатак рэцэнзіі: «Сама назва паказвае, што гэтая кніга паэтам мыслілася, як мандат на права нашэння зброі бальшавіцкага мастацтва, што паэт гэтай кніжкай пакажа і дакажа, што ён не толькі майстэрскі валодае зброяй мастацкага слова, але і ўмее правільна палітычна яе накіроўваць на барацьбу за камуністычныя прынцыпы, супраць класава-варожых сіл. Для гэтай мэты паэт узяў свае вершы, якія па яго думцы сцвярджаюць жыццярадаснасць нашага будаўніцтва, апяваюць ударную працу пралетарыяту, даюць бой чорным плямам, якія засталіся, як спадчына, у нашай рэчаіснасці (бюракратызм, п'янства, прагулы, няправільныя адносіны да рабочага, закліканага ў літаратуру) даюць бой варожым для нас сілам сусветнага капіталу».

Але папярэднія развагі М. Клімковіча былі своеасаблівай запеўкай у крытычным роздуме. Адразу пасля вышэйпрыведзенай цытаты ішло традыцыйнае «аднак», якое затым будзе паўтарацца неаднойчы, падкрэсліваючы неадпаведнасць значнасці задумы В. Маракова і яе практычнага мастакоўскага вырашэння, неадпаведнасць, у якой М. Клімковіч нікольні не сумняваўся: «Аднак паэт не справіўся са сваёй задачай, а сама назва кнігі міжволі нагадвае ў процівагу сабе — вядомую прыказку пра дзіця, якому нажа ў рукі даваць яшчэ не трэба».

Абвінавачанне сур'ёзнае, паколькі, не будзем забываць, у назве зборніка фігуруе «зброя». Праўда, М. Клімковіч лічыць патрэбным усё ж пашырыць думку аб набытках В. Маракова: «Пры ўсіх усё ж такі зрывах, мы павінны адзначыць тое, што ёсць у рэцэнзуемых намі вершах тав. Маракова і што ён павінен надалей развіваць у сваёй творчасці. Першае і асноўнае, што кідаецца ў вочы пры чытанні зборніка — гэта жаданне паэта накіраваць сваю лірыку са шляху апісання сваіх вузка-асабовых перажыванняў на шлях апявання грамадска-палітычных падзей і тых перажыванняў, якія звязаны з гэтымі падзеямі».

На думку М. Клімковіча, станоўчае ў новай кнізе В. Маракова ў тым, што «з'яўляецца такая тэматыка, як барацьба з бюракратызмам» («Рахунак, паэты, пададзены да аплаты»), «паэт спрабуе ахапіць сваёй творчасцю, адгукнуцца на сусветныя падзеі» (вершы «За што?», прысвечаны памяці Сако і Ванцэці, «Вынаходніцтва майго сябра Капусціка»). Далей крытык пісаў: «Станоўчай адзнакай зборніка з'яўляецца вобразнасць мовы, прастата (але не спрошчанасць) вобразаў, прастата мовы, свежасць рыфмаў і ўзняты тон шмат якіх мясцін вершаў».

Проста незразумела, як пасля такой «станоўчасці» далейшыя развагі можна пабудаваць у форме прысуду, які абмеркаванню не падлягае. На жаль, факты рэч упартая. У рэцэнзіі з'яўляецца яшчэ адно «аднак», і лёс В. Маракова па сутнасці вырашаны. Каб не быць галаслоўным, прывяду гэты прысуд-абвінавачанне, які да месца не ў рэцэнзіі, а ў судовай справе:

**«Аднак гэтыя станоўчыя бакі разглядаемага намі зборніка ніяк не акупляюць яго ад адмоўных бакоў, зрываў творчага і ідэалагічнага парадку. Больш таго — некаторая частка вершаў носіць яскрава выражаны варожы характар нашай сапраўднасці. Гэта з'яўляецца вынікам уплыву на паэта дробна-буржуазнай стыхіі, яго акружаючай, вынікам няўстойлівасці яго светапогляду, адсутнасці ўзбраення марксісцка-ленінскай тэорыяй, вынікам слабага ўдзелу самога паэта ў практыцы нашага будаўніцтва. Асноўныя памылкі палітычнага параду зводзяцца да наступнага:**

**1. Прапаганда буржуазнай тэорыі надкласавасці мастацтва.**

**2. Сцверджанне «права» паэта — стаяць у баку ад практыкі сацыялістычнага будаўніцтва (што з'яўляецца выцякаючым з першай «тэорыі»).**

**3. Няправільнае, скажонае адлюстраванне нашай рэчаіснасці, а адсюль і няправільныя вынікі, няправільныя рэцэпты выпраўлення недахопаў і прарываў, якія абураюць паэта.**

**4. Пасіўная роля наглядальніка прыводзіць паэта да пасівістычных вобразаў, да хворага песімізму, які нярэдка мяжуе ў адным вершы з радкамі ўздымаючымі, жыццярадаснымі».**

Пасля прысуду ідзе ўдакладненне: «скажонае адлюстраванне рэчаіснасці ёсць у многіх вершах Маракова». Нагадаем: быў толькі 1934 год, да крывавага 1937 яшчэ далекавата. Ды ўжо тады, у трыццаць чацвёртым, нішто не праходзіла бясследна, занатоўвалася ў адпаведных інстанцыях. Механізм «абвастрэння класавай барацьбы па меры далейшага руху да сацыялізму» набіраў абароты. Рэцэнзія М. Клімковіча станавілася свайго роду «палівам», якое жывіла яго.

Калі раней крытык часам абмяжоўваўся развагамі агульнага плана, дык на гэты раз ён імкнецца да «аб'ектыўнасці» і «праўдзівасці»:

**«Першая палітычна-шкодная ўстаноўка пранізвае верш «Дарога да Чырвонай сталіцы». Асноўная думка верша: жыццё зараз прыгожа, бо мы маладыя, як маладая наша краіна. Аднак «лета бярэцца і возьмецца за нашыя твары жахліваю вохраю, тады гарады з іх садамі і скверамі, з музыкай зор і з пялёсткамі руж будуць для нас, як і дні нашы, шэрымі...» А таму хутчэй скарыстоўвай «права на вусны і смех дарагой». Ведаючы, што такой парадай (скарыстоўваць жыццё толькі ў вузка-асабовых інтарэсах) — не задаволіцца большасць нашых маладых рабочых ударнікаў — Маракоў спрабуе глыбей абгрунтаваць яе, кажучы, што «машыны для машын і камунізм для камунізму» — не патрэбны, а што гэта ўсё для таго, каб лепш наладзіць вузка-асабістае жыццё. Палітычная блытаніна, адрыў чалавека ад класавай грамады і класавае практыкі, пропаведзь «любіць камунізм — нібы сонца» пад восеньскім небам, а не змагацца за яго, ў тым ліку вытворчасцю машын, якія ў руках працоўных даюць новыя машыны для паскарэння прыходу камунізму, — у пэўнай меры адценне кацэпцыі: «мэта — нішто, рух — усё». Усё гэта намі praведзена для абгрунтавання няверной ідэі. Доказы такія ж няправільныя, як няправільная ідэя».**

Не бачыў, ды і, відаць, не хацеў бачыць крытык вершаў, у якіх В. Маракоў імкнуўся паказаць свой час, чалавека свайго часу. Не надта абцяжарваў сябе і веданнем фактаў, якія сведчылі аб тым, што паэт ішоў на вытворчасць, каб на свае вочы пабачыць, чым жыве яго маладая рэспубліка. А на заводах ён, як і многія іншыя пісьменнікі, бываў зусім не госцем. Як успамінае С. Шушкевіч, «давялося... пабываць з Мараковым і на вытворчай практыцы на Асінаўскай электрастанцыі імя Леніна на Аршаншчыне, на запалкавай фабрыцы імя X-годдзя БССР у горадзе Рэчыцы».

Тады, пасля наведання гэтай фабрыкі, вярнуўшыся ў Мінск, В. Маракоў напісаў нізку вершаў і паслаў іх у фабрычную насценную газету: «Толькі адзін з гэтых вершаў — «Першы дзень на запалкавай фабрыцы» — уцалеў і быў надрукаваны (у тым жа зборніку «Права на зброю». —**А. М.**). Ён быў напісаны ў час абедзеннага перапынку ў кацельным аддзяленні фабрыкі». Успамінаючы той дзень, С. Шушкевіч працягвае: «Я тады качагарыў, разам з Мараковым. Верш быў адразу ж прачытаны ўсім, хто сабраўся пагрэцца ў халодны зімні дзень. Перад чытаннем Валерый Маракоў шпурнуў некалькі вялізных пален у вялізную печ і, прысеўшы на вялізную калоду, усхваляваным голасам чытаў нам новыя радкі».

Запамінальна, выразна перададзена тое, сведкам чаго быў паэт:

**...І гэтае дрэва**
**мы кінем**
**за дзверцы**
**ў агонь,**
**каб эпоха**
**свяціла ярчэй!**
**Каб нашай рэспублікі**
**дужае сэрца**
**не знала змяінай атруты**
**начэй.**
**Каб сонца і птушка**
**ўрываліся ў вокны.**
**Каб промні шугалі**
**з кутка ў куток,**
**каб заўжды ўключалі,**
**як быццам знарок, мы**
**ў нашыя сэрцы**
**вясны сваёй ток.**

Сама эпоха — жыватворная, абнаўляльная — быццам праламляецца ў гэтым канкрэтным факце, паэтычны малюнак, абагульняючыся, становіцца вобразам-сімвалам новага свету. Паэт скіраваны ў будучыню, у якую верыў так светла, чыста, апантана, да самазабыцця, як верылі мільёны савецкіх людзей, радуючыся першым поспехам і не зважаючы на тое негатыўнае, што было побач. Гэтую сваю веру В. Маракоў выказаў і ў вершы «Ліст да паэта Петруся Броўкі»:

**Так многа**
**патрэбна сказаць нам,**
**так многа,**
**Каб песня пяшчотай**
**і куляй была...**
**Каб нашы сэрцы**
**над слаўнай дарогай**
**якой мы ідзём,**
**не кранала імгла.**

Згаданыя творы прайшлі па-за ўвагай М. Клімковіча. Сапраўды, «быў час, была эпоха». Ні нам станавіцца ў позу найвышэйшых суддзяў, якія так добра ведаюць, хто правы быў, а хто вінаваты. Тым больш, і сам М. Клімковіч праз колькі часу спазнаў, што такое нямінасць. Але ў імя праўды і справядлівасці, ні ў якім разе нельга замоўчваць таго, што было і як было. І дзеля самой гісторыі без «белых плям», і дзеля таго, каб быць упэўненым, што падобнае больш ніколі не паўторыцца.

Таму зноў факты. Рэцэнзія «Пра кніжку В. Маракова «Права на зброю» ў тым другім нумары «ЛіМа» за 1934 год была надрукавана невыпадкова. Менавіта ў гэтым нумары, а не ў якім іншым. Там жа змешчана «Пастанова аб'яднанага пленума ЦК і ЦКК КП(б)Б па выніках і бліжэйшых задачах правядзення ленінскай нацыянальнай палітыкі ў БССР», у VIII раздзеле якой канстатавалася: «Пры значным росце беларускай савецкай літаратуры і мастацтва і пісьменніцкіх кадраў, на гэтым фронце асабліва выразна выявіўся ўплыў буржуазна-нацыянальных элементаў і іх агентуры ў партыйных радах». Гэткім жа духам прасякнуты і перадавы артыкул нумара «Праграма бальшавіцкай работы». Чаго варта яго завяршэнне: «Гістарычная пастанова пленума ЦК і ЦКК КП(б)Б па нацпытанню з'яўляецца праграмай бальшавіцкай работы, якая будзе ажыццёўлена рабочым класам і працоўнымі БССР пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б на чале з лепшым сталінцам тав. ГІКАЛА».

Зноў-такі, у гэтым нумары апублікаваны і артыкул Я. Бранштэйна «Узмацнім пільнасць на фронце мастацкай мовы».

Ці трэба шмат гадаць, наколькі «да месца» рэцэнзія была для рэдакцыі «Літаратуры і мастацтва» і наколькі небяспечнай стала яна для далейшага лёсу В. Маракова. Выстаўляліся палітычныя абвінавачанні і яшчэ якія! Паэт спрабуе хоць неяк рэабілітавацца. Толькі гэтым можна вытлумачыць яго верш «Слава Беларускай Савецкай Рэспубліцы». Красамоўны эпіграф да твора «Асабліва вялікія дасягненні мы адзначаем за апошнія два гады пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б, на чале якога стаіць моцны бальшавік тав. Гікало. Шаранговіч. (З даклада на XV з'ездзе КП(б)Б)». Яшчэ больш красамоўная канцоўка твора:

**...Мы шлем прывітанне**
**найвышэйшай ясноты**
**Усяму бальшавіцкаму**
**штабу зямлі.**
**Бо партыя Леніна нас гартавала,**
**Растуць і шчыльнеюць, ...рады.**
**Так вучыць, вядзе нас таварыш Гікала**
**І Сталіна поступ — шлях нашай хады.**

У пятым нумары за 31 студзеня 1934 года В. Маракоў, як бачым, пачынае славіць Сталіна, хоць дагэтуль, будзем справядлівымі, падобнае за ім не надта назіралася. Далей, як сведчыць невялікая карэспандэнцыя «Пісьменнікі ў рабочых завода «Бальшавік» («ЛіМ», № 7, 12 лютага 1934 года), «8-га лютага брыгада пісьменнікаў Заходняй вобласці... разам з тт. Клімковічам, Дударам, Мараковым і іншымі наведала адно з буйнейшых прадпрыемстваў гор. Менску — завод «Бальшавік». Пісьменнікі не толькі выступалі, чыталі свае творы, але «абыйшлі ўсе цэхі завода... і пазнаёміліся з працэсамі вытворчасці».

**Паэт разам са «сваім» крытыкам паварочваецца «тварам да вытворчасці», каб, канечне ж, пазбавіцца ў далейшым «скажонага адлюстравання рэчаіснасці». Ён нават піша нарыс «Маладыя сэрцам» («ЛіМ», № 20, 18 красавіка 1934 года), у якім расказвае пра алімпіяду мастацкай самадзейнасці.**

**Тым самым творчае жыццё працягваецца, але зусім не ў такіх тэмпах, як гэта было раней. Водгулле аглабельнай крытыкі дае аб сабе знаць. Гэта ўжо зусім не той В. Маракоў і ў жыцці, асабліва, калі станавіўся сведкам, як у заклятых ворагаў сацыялізму ператвараліся яго знаёмыя і сябры. Няўпэўненасць у заўтрашнім дні не праходзіла бясследна. Было зусім не да вершаў, не да паэзіі...**

...Доўгі час у розных бібліяграфічных даведніках пра далейшы лёс В. Маракова пісалася прыкладна так, як у зборніку «Пісьменнікі Савецкай Беларусі», выдадзеным у 1981 годзе: «З 1937 г. жыў за межамі Беларусі». Называлася і дата смерці В. Маракова: «7 мая 1940 года». Аказваецца, жыццё яму ў даведніках, з-за адсутнасці дакладных звестак, прадоўжылі ажно на тры гады.

Абвінавачаны «ва ўдзеле ў контррэвалюцыйных нацыяналістычных арганізацыях», В. Маракоў, нягледзячы на жорсткія фізічныя катаванні, трымаўся мужна, не паддаючыся ні на якія правакацыі. Зрабіць жа гэта было не так і проста, таму што іншыя арыштаваныя, думаючы, што так змогуць захаваць сабе жыццё, ва ўсім «прызнаваліся», больш таго — абгаворвалі яго, называлі нейкія злачынныя сувязі, што давалі следчым падставы меркаваць аб наяўнасці нацыяналістычнай арганізацыі. Адзінае, што рабіў В. Маракоў, дык тое, што называў усе гэтыя абвінавачанні, прызнанні «сведак» прымітыўнай хлуснёй. Па-ранейшаму не ішоў ні на якія ўступкі следчым, катэгарычна адмаўляўся прызнаць сябе ворагам.

Трымаўся мужна сам і не нагаворваў на іншых, як таго і якімі метадамі ні патрабавалі на допытах і вочных стаўках. Усе пратаколы нязменна завяршаліся аднымі і тымі ж словамі: «Абвінавачаны вінаватым сябе не прызнаў». Чаго такая настойлівасць каштавала В. Маракову, можна толькі здагадвацца. Вядома ж, што нават знакамітыя рэвалюцыянеры, хто з гонарам прайшоў праз царскія турмы і жандарскія засценкі, проста не вытрымлівалі — ні фізічна, ні маральна, ні духоўна, калі траплялі ў шасцяронкі сталінскай машыны знішчэння народа.

Пра апошнія дні жыцця В. Маракова стала вядома пасля таго, як былі ўзяты з архіваў асобныя судовыя справы, што тычацца масавых рэпрэсій у 1937 годзе, найперш лёсу людзей, якія абвінавачваліся «ва ўдзеле ў контррэвалюцыйных нацыяналістычных арганізацыях» на тэрыторыі Беларусі», у прыватнасці справы Гаўрылы Іванавіча Гарэцкага і В. Маракова.

Падрабязнасці паведаміў у інтэрв'ю «З-за адсутнасці саставу злачынства...» («Звязда», 25 чэрвеня 1988 года) пракурор Беларускай ССР Г. С. Тарнаўскі: «Пасяджэнне ваеннай калегіі Вярхоўнага суда БССР працягвалася ўсяго 15 мінут — В. Д. Маракова прыгаварылі да вышэйшай меры пакарання. Праз дзень — 29 кастрычніка 1937 года прыгавор быў прыведзены ў выкананне».

...Паэзія В. Маракова, хоць і прысутнічалі ў ёй бунтарныя матывы «маладняkоўства», таксама была безабароннай перад суровым жыццём, бо несла ў сабе шмат крыху наіўнай мілагучнасці, прасветленасці, крынічнай чысціні. Не выглядаў асілкам аўтар, але бачна, вынес тое, чаго не вытрымлівалі і куды больш фізічна моцныя. Тое ж самае можна сказаць і пра паэзію В. Маракова — на фоне дасягненняў дваццатых-трыццатых гадоў, не кажучы ўжо аб набытках апошняга часу, яна выглядае ў нечым сціплай і як бы нейкай сарамлівай. Але гэта тая сціпласць і тая сарамлівасць, якія сведчаць аб значнай духоўнай напоўненасці лепшых радкоў, іх эмацыянальнай узрушанасці.

Веру, знойдзе свайго ўважнага і дапытлівага чытача томік выбранага В. Маракова «Вяршыні жаданняў» — найбольш поўны збор яго творчай спадчыны, ён толькі што выйшаў у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Упэўнены, многім запомняцца гэтыя радкі паэта, якія так накіраваны ў дзень сённяшні, што адчуваеш саму прысутнасць іх аўтара:

**Іду і спяваю,**
**І выраслі крыллі,**
**Ляту, як пілот,**
**У падзоравы край.**
**Байцом**
**Паэтычнай, цяжкой**
**Эскадрыллі,**
**Запісаны ў полк**
**Акцябра!**

Алесь **МАРЦІНОВІЧ.**

Радое ДАМАНАВІЧ

## ДЗЯРЖАЎНЫ МЫСЛІЦЕЛЬ

Трэба, каб нехта думаў у гэтай дзяржаве. Тут не можа быць «хачу» — «не хачу». Неабходна! Думае дзяржаўны савет, думае кабінет *міністраў, аб нечым думае* акадэмія навук (яна болей патаемна, хаваючыся), думае і камітэт асветы... Але як? Калі схочацца, аб чым давядзецца, як выйдзе. Адным словам, корпаюцца, як сляпы ў торбе. І што самае важнае—ніхто ні за што не адказвае, нікому нічога не вінен. Вось таму ўсё і сунецца, *нібы па дрыгве*. Мы, сербы, ведаем адно: калі не абавязаны, дык і рабіць не варта, *іншая справа, калі на* табе вісіць абавязак. Хто б у нас у школу хадзіў, каб гэта *было не абавязкова*? Хто б з сербаў атрымаў вышэйшую адукацыю, каб і без яе добра *плацілі? Якая там* навука, якія думкі! Як толькі дацягнуўся да заробку — кніжкі ў запечак. Дзе б вы сярод сербаў знайшлі такога дурня, які згодзен плаціць падаткі, калі б гэта не па абавязку і пад прымусам? Хто б сплачваў пазыкі, каб не абавязак і закон? Хто ў войску служыць рады з чыстага патрыятызму?

Дык падагулім. Усім вядома і зразумела: робім толькі тое, *што* рабіць абавязаны. А выконваючы абавязкі, працуем звычайна добра. Калі кепска, дык гэта па добрай волі. Чаму ж тады мысленне нам не зрабіць абавязковым? Прынамсі, хоць у некаторых выпадках. Без гэтага застанецца, як раней; калі думалі як хацелася, думалі кепска альбо зусім не думалі.

Каб захіліцца (а то і чыста пазбегнуць) цяжкіх вынікаў немыслення, лічу неабходным стварыць новую пасаду, вызначыць адпаведную плату, за якую абавязкова думаць, і такім чынам увесці новае званне:

Дзяржаўны мысліцель.

Хочацца прэтэндэнту на такую пасаду думаць ці не —гэта ў разлік не бярэцца. Ён будзе павінен, абавязаны. Тым болей што за гэта будзе няблага зарабляць.

Каму належыць, хай задумаюцца над маёй прапановай, *а потым мы яшчэ* вернемся да гэтага і падрабязней абмяркуем правы і абавязкі таго, хто можа звацца «Дзяржаўным мысліцелем».

З сербскахарвацкай пераклаў Іван ЧАРОТА.

Алесь БАРСКІ

## ПАЎТОРНАСЦЬ НЕПАЎТОРНАГА

Дзе няма поўнай праўды, там няма поўнага шчасця.

●

Жабы ніколі не згодзяцца са сцвярджэннем арнітолагаў, што *бусел* не з'яўляецца птахам драпежным.

●

Калі будзеш доўга маніць, дык нехта і пра цябе скажа праўду.

●

Калі б беларусы спалохаліся *ўласнай слабасці*, не мусілі б баяцца чужой сілы.

●

Можна гаварыць аб дурным *па-разумнаму* і аб разумным па-дурному.

●

Чалавек, які болей дбае аб прыгажосці, чым *аб яго* верагоднасці, станецца з часам і непрыгожым, і неверагодным.

●

Многія людзі ганарацца тым, чаго павінны саромецца, і саромеюцца таго, чым павінны ганарыцца.

●

Можна ашукаць мільёны *людзей, але нельга* ашукаць адной гісторыі.

●

Не кахай замоцна, бо будзеш каханы заслаба.

●

Свабода без хлеба таксама горкая, як і хлеб без свабоды.

●

Хто празмерна хваліцца сілай сваіх мускулаў, паказвае слабасць свайго розуму.

●

Краіна, у якой будуецца многа святынь і мала кватэр, будзе *прасторнай для* багоў і цеснай для людзей.

●

Зямля трактуе нас як добрых дзяцей, а мы яе — як злую мачыху.

●

Чым глыбей будзеш пранікаць у жыццё, тым больш плыткім яно табе будзе здавацца.

●

Калі хтосьці прывыкне жыць пад чужым капытом, таму цяжка жыць пад родным небам.

●

Сітуацыя, у якой людзі ўстаюць пабачыўшы палітычнага дзеяча, давядзе да таго, што многія з іх будуць пасаджаны.

●

Калі будзеш глядзець на свет праз прызму ўласнай дасканаласці, дык будзе ён табе заўсёды здавацца *недасканалым*.

●

*Калі б* чалавек зразумеў сэнс усяго, тады яго жыццё страціла б сэнс.

●

Апладысменты для аратара часта бываюць праявай удзячнасці не за тое, што ён сказаў, а толькі за тое, што замоўк.

●

На жаль, на самога сябе чалавек можа глядзець толь*кі здалёк і ацэньваць сябе* толькі прыблізна.

●

Для некаторых дарога ад праўды да маны змяшчаецца ў пядзі, затое шлях ад маны да праўды—не ўкладваецца ў вярсту.

●

*Ёсць псеўдабеларусы*, якія замест таго, каб сэрцам заглыбляцца ў беларускасць, *зубамі заглыбляюцца* ў нямілых ім беларускіх дзеячаў.

●

Бываюць людзі, якія весялеюць, калі пабачаць сумнага, і маркатнеюць, пабачыўшы вясёлага.

●

Бяда нас знаходзіць намнога часцей, чым мы знаходзім шчасце.

●

Калі імперскія афіцэры пачынаюць зайздросціць *салдатам, а салдаты* перастаюць зайздросціць афіцэрам, пачынаецца ўпадак *імперыі*.

*ПАРОДЫІ*

Георгій ЮРЧАНКА

### Аналіз сінтэзу

Вада і шкло — два светы,
дзве празрыстасці.
. . . . . . . . . . .
Вугал падзення роўны вуглу
адбіцця.

Галіна БУЛЫКА.

Сінус бэта-вугла упіраецца
ў вазу,
Промень тангенса зырка ад
люстры ідзе.
І сыпучасць пяску вам
напомніць адразу,
Што цякучасці вод не
стрымацца нідзе.

Хай пад дзябкаю крана
ручай ажывае
І ў забытым кар'еры
ружовее шпат.
Праз тры пункты наўкола
кладзецца крывая,
Каб праз катэт прамой
перайсці на агат.

І паўсюдна адзнакі
слюдзінкі спіральнай
Незгасальна гараць на
зыходным шляху,
Бо сягоння насуперак сіле
астральнай
Перахонана можна пакласці
ірху.

Хай герань паміж лінзаў
квітнее заўсёды,
Фікус лісце раскіне на
радасць другім.
Падуладны мне сінтэз
прабіркі і оды,
І спіртоўка ў трымценні
выспеўвае гімн.

### Успаміны

Пад гару, пад гораньку
дзеўчына ідзе.
Над калінай горкаю
чырванее дзень.

Валянціна АКОЛАВА.

Цэлы тыдзень цвеліцца —
мне чакай дарма.
Ні мычыць ні целіцца,
словечка няма.
Калыханкі веснія кружаць
галаву.
Развітальнай песняю ў даль
я паплыву.
Квеценню мяцеліцца
вішанька мая.
Дзіўнай летуценніцай
выглядаю я.
Сполахі ліпнёвыя шлях
памецяць мне.
Вера ледзьве клёвае:
помніць ён ці не?..
У чаканні страчана частка
пачуцця.
Шклінамі пазначана
сцежачка жыцця.
Водгулле трывожнае ў
сэрца заплыло.
Гуслі спадарожныя звоняць
за сялом.
У душы гарачлівай слоў
чуллівых жмут.
Як мне быць абачлівай у
тузе пакут?
Знаю: скаргі нечыя — мне
адметны знак.

Позірку хлапечага не
забыць ніяк...






Мал. Я. ЦАРКОВА.




З 17 ПА 23 КРАСАВІКА

17 красавіка, 19.50

«БАЦЬКАЎ ДАР»

100 беларускіх песень са збору Р. Шырмы.

Прагучаць жніўныя песні. Выконвае хор Беларускага тэлебачання і радыё.

18 красавіка, 21.40

«ЛІРА»

Мастацка-публіцыстычная праграма.

19 красавіка, 21.50

«У ТЭАТРАХ КРАІНЫ»

А. Агабаеў. «Толькі знаёмы».

Спектакль Туркменскага акадэмічнага тэатра імя Маланепеса.

Уступнае слова доктара мастацтвазнаўства А. Сабалеўскага.

22 красавіка, 12.05

«МАЛАДОСЦЬ МАЯ НЕЗАБЫЎНАЯ»

Успамінае акадэмік Акадэміі навук БССР Ф. І. Фёдараў.

22 красавіка, 20.00

«БУГ»

Літаратурна-мастацкі часопіс.

З творчасцю маладога драматурга М. Арахоўскага пазнаёмяць У. Калеснік, А. Петрашкевіч.

22 красавіка, 21.40

«РАДАВОД»

Фальклорны відэаканал. Вы ўбачыце унікальныя вясновыя абрады розных куткоў Беларусі.

23 красавіка, 15.15

«ПРЭМ'ЕРА ПЕСНІ»

А. Елісеенкаў. ·М. Мятліцкі. «Сонтрава».

Спявае У. Стамаці.

23 красавіка, 17.55

«ТЭАТР І ЧАС»

Перадача па выніках II Беларускага тэатральнага фестывалю.

Пра шляхі развіцця беларускай сцэны разважаюць рэжысёр Б. Луцэнка, супрацоўнік Міністэрства культуры БССР В. Валадзько, тэатральныя крытыкі А. Ганчароў і В. Ракіцкі.

23 красавіка, 23.20

«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»

Інфармацыйна-музычная праграма.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз *на тыдзень, па пятніцах*.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

АТ 07503 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Індэкс 63856 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.
ТЭЛЕФОНЫ: *прыёмнай рэдакцыі* — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў і грамадскай думкі — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарская — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.